# ДЗІВОСЫ ЛЮДСКІХ ЛЁСАЎ

## СЛЯДЫ НА ЗЯМЛІ

Жывыя людзі на Зямлі
Аставіць хочуць праз гады
Сахой ці плугам на раллі
Свае жыццёвыя сляды.
Адзін засее агарод,
Засадзіць дзесь прыгожы сад,
Які дасць фрукты кожны год,
І спелы, сочны вінаград.
Другі вясёлкай дзіўных фарб
На дошцы ці на палатне
Малюнкі створыць, для прываб,
Павесіць іх дзесь на сцяне.
Або аддасць яго ў архіў,
Каб людзі ўспомнілі аб ім,
Што ён калісь на свеце жыў
І меў чароўны творчы ўздым.
Зноў трэці долатам, нажом
Заменіць у багінь граніт,
Паставіць помнік, як вярхом
Якісь цар едзе на кані.
Чацвёрты грыфелем, пяром
Напіша драму ці раман,
Ці навуковай кнігі том,
Каб іх чыталі, як каран.
Горш, як аставіць жорсткі след,
Падпаліць у суседа  дом,
Або наробіць многа бед
Наганам, шабляй ці мячом.

## НАШЫ МАРЫ

Мараць людзі, што далёка
Ёсць цудоўная краіна,
Дзе людзей не мучыць спёка,
Ні марозы, ні ангіна.
    Што далёка ёсць дзяржава,
    Дзе жывуць усе шчасліва,
    Час праводзяць на забавах,
    Знаюць толькі справядлівасць.
Там не чуюць людзі злосці,
Маюць ежы, маюць вілы,
Іх не мучаць боль і млосці,
Там не плачуць на магілах.
    Поўна дрэў там урадлівых,
    Цешаць іх усе дзівосы,
    А на дрэвах: грушы, слівы,
    Апельсіны, абрыкосы.
Вылятаюць з рэчкі ў рукі
Шчупакі, ўюны і ракі,
На кустах зноў для прынукі
Вабяць розныя прысмакі.
    Песнямі ад ранка птушкі
    Захапляюць іх навокал.
    І вясёлыя частушкі
    Ад русалак чуць з патокаў.
Там па небе пры світанні
Залатыя ззяюць хмары...
Вось такія ў нас жаданні,
Вось такія нашы мары.

## НАІЎНАЯ АХВЯРА

На чыстым небе круглы месяц
Смяецца ў вочы мне згары,
Мільёны зорак з паднябесся
Мільгаюць быццам янтары.
    Іду дамоў па тратуары,
    Святло блішчыць наўкол з акон,
    З балкона чую гук гітары,
    І з песняй гучны барытон.
Гляджу на сметнік каля дома,
І ў бляску месяца здалёк
Жанчыны бачу твар знаёмы,
Яна ў руках нясе мяшок.
    Шукае, згорбленая, ў смецці.
    Каб штось прыгожае знайсці,
    Бо ў сына ёсць малыя дзеці,
    І трэба з чымсь да іх прыйсці.
А беспрацоўныя сын з жонкай
Год з дапамогі ўжо жывуць,
І ўжо пустая ў іх скарбонка,
Каб дзетак і сябе абуць.
    А помню, як яна калісьці
    „Далоў – крычала – камунізм!
    З яго дзяржаву мы ачысцім !
    Хай будзе зноў капіталізм!”
Была адважнай актывісткай
У „Салідарнасці” тады.
Паверыла ў капіталістаў,
Пры іх пачула смак бяды.

## ДВАЦЦАЦЬПЕРШАЕ СТАГОДДЗЕ

Дваццатае стагоддзе я вельмі добра помню,
Дзяцінства я пражыў у вёсцы, між палёў,
Вайну пасля пражыў, няволю, як катоўню,
Пабачыў у баях людскія раны, кроў.
А потым да канца дваццатага стагоддзя,
Працуючы пазнаў я свет, як ваяжор,
Шчасліва час прабег у мілым асяроддзі,
Гасціў і працаваў я часта за мяжой.
Я новае стагоддзе дачакаў з надзеяй,
Што вольнасць прынясе яно для ўсіх людзей,
Ды з бояззю глядзеў на дзіўныя падзеі,
На барацьбу за ўладу, на барацьбу ідэй.
З'явілася ў дзяржаве хутка беспрацоўе,
І пачалі расці бяздомных табуны,
І ўлады перасталі дбаць пра іх здароўе,
А ў прапагандзе ўлад было ўсё больш маны.
Для розных махляроў адкрылася мажлівасць
Карупцыяй, падманам хутка ўзбагацець,
І часта да злачынства давяла іх хцівасць,
За што не раз сустрэла іх турма ці смерць.
Паўсталі хутка хеўры грозныя ў краіне,
Якія рабавалі нашае дабро,
Знайшліся прадпрыемствы многія ў руіне,
Бо прадалі іх за мяжу за серабро.
Закончу я на гэтым злыя ўсе дакоры,
Бо іх не знае праваслаўная царква.
Будуюцца навокал цэрквы і саборы,
Нас зачароўваюць яны з-за хараства.

## СКАРПІЁН

Радзіўся я, калі на Млечным Шляху
З'явілася сузор'е Скарпіён,
На захад Шалі ўжо ўцяклі без страху,
Стралец на ўсходзе сеў у фаэтон.
У задыяку, быццам дзве планеты,
Мне памагалі з неба: Марс, Плутон,
Шапталі над калыскай мне санеты,
Каб я не плакаў, меў спакойны сон.
Яны мне памаглі ў маім дзяцінстве,
Як у раю прайшло яно ў мяне,
І толькі потым голад і злачынства
Пазнаў я на варожай цаліне.
Аднак умеў я вырвацца з чужыны.
Мажліва, мне сузор'е памагло.
І я такія мог пазнаць краіны,
Дзе цэлы год усім было цяпло.
Там цэлы год цвілі навокал кветкі,
Стаялі пальмы ля маіх дзвярэй,
Папаі фрукты, быццам бранзалеткі,
У вокнах ззялі мне на юбілей.
Адсвяткаваў я там два юбілеі.
Заўжды вітаў мяне там Скарпіён,
Мне моргаў з неба ноччу на алеі,
Або калі я выйшаў на балкон.
Жадаў на юбілеях мне здароўя,
Каб цешыўся з свайго жыцця заўжды,
Каб не пасмакаваў я беспрацоўя,
І не сустрэў пасля ў жыцці бяды.

## ЗАХАПЛЕННЕ ЖЫЦЦЁМ

Я нават у няволі
Не прызнаваў ныцця,
Не скардзіўся на долю
І цешыўся з жыцця.
Заўжды любіў прыроду
Я летам і зімой,
Пагоду, непагоду
І лівень за сцяной.
Любіў у вёсцы кветкі
На лузе маладым,
Зялёныя палеткі,
Квяцістыя сады.
Я захапляўся летам
Вясёлкай за сялом,
Яна, як бранзалета,
Міргала мне святлом.
І вельмі я быў рады,
Калі начной парой
На небе, як лампада,
Ззяў месяц нада мной.
Жыццю я біў паклоны
За тое, што жыву,
Што бачыў лес зялёны
І з кветкамі траву.
Што чуў я песні птушак,
Меў вільгаць ля ракі,
Быў рады, што між мушак
Ляталі матылькі.

# ГІТАРЫСТ

У Варшаве на вуліцы, на тратуары,
Пад сцяною будынка бязногі жабрак
Сам спявае  і грае ўвесь дзень на гітары
І манеты збірае ў маленькі рукзак.
А гітара рыдае і плача з ім разам
Пад ягонымі  пальцамі, быццам дзіця.
Ён спявае, як дзесь працаваў вадалазам,
І амаль што не страціў пры працы жыцця.
Ён застаўся без ног  у  Варшаўскім паўстанні,
Адарваў іх снарад у крывавым баі.
Не цікавіць нікога  яго існаванне,
Што няма ў яго жонкі,дзяцей і сям'і.
А прахожыя розна глядзяць на калеку,
Рэдка нехта  падкіне манету ў рукзак,
Бо ўсе лічаць, што ён у прытулку апеку
Дзесь павінен знайсці, як  бяздомны жабрак.
І ён з роспачы рве часта пальцамі  струны,
І жахлівая песня гучыць між дамоў,
Быццам хвалі ад шторму ляцяць у лагуны,
І ў навальніцы трэскае сотні грамоў.
Застагнала журботна гітара раптоўна,
Што ад стогну яе задрыжэў побач дом,
Адлажыў ён яе, засмяяўся чароўна
І з вачэй хутка слёзы абцёр рукавом.
Ён пасля доўга моўчкі сядзеў ля гітары,
Калі выпіў з бутэлькі ваду, як кагор…
А прахожыя побач ішлі тратуарам,
Не звяртаючы ўвагі  зусім на яго.

## ПРЫВЫКАЮ

Калі былі сілы, дык ўсюды
Я часта блукаў, там, дзе мог,
Мяне абміналі прастуды,
Здароўе свае я бярог.
Пабачыць мог белыя ночы,
На чоўне па Гангу я плыў,
У Ялце купаўся і ў Сочы,
Глядзеў на Пярсідскі заліў.
І бачыў здалёк Гімалаі,
Калі раз наведаў Непал
Ля самай граніцы з Кітаем,
Дзе моцны сустрэў мяне шквал.
Травой зараслі каляіны
І сцежкі пражытых гадоў,
Асталіся толькі ўспаміны
І здымкі нябачных слядоў.
І старасць забрала мне сілы,
Каб мог зноў пакінуць свой дом,
Раскрыўшы над ім ушыр крылы,
Лятаць у паветры арлом.
Цяпер да ўсяго прывыкаю,
Да новых умоў і людзей,
Да цёплага хатняга раю,
Да іншых жыццёвых падзей.
Да новых мелодый і гукаў,
Якія ляцяць з-за мяжы,
Да смеху вясёлых праўнукаў,
Да звычаяў, святаў чужых.

## ЛЁС БЕЛАРУСА

*Мікалаю Хмяльніцкаму*

Адышоў ён ад жонкі ў Варшаве,
Бо пагналі салдатам на фронт,
А сяржанта яго неўзабаве
Захапілі ў савецкі палон.
Там пужаў яго часта ў няволі
Праз амаль тры гады палітрук,
А ў вайну ён яго мімаволі
Пераслаў на зіму ў Бузалук.
Там папаў ён у польскае войска
І, як польскі старэйшы салдат,
У абставінах новых і свойскіх,
Навабранцаў вучыў, як сяржант.
І прайшоў ён Іран, Палесціну,
І знайшоў у Італію шлях,
Потым раны пад Монтэ-Касінам
Ён атрымаў у цяжкіх баях.
Мог ён жыць у ангельскай дзяржаве,
Ды па жонцы ён вельмі тужыў,
Да яе ён вярнуўся ў Варшаву,
А ў яе пазашлюбны муж быў.
Меў ён доўга турботы з уладай,
Як заходні салдат- ветэран,
Ад яе не адчуў ён спагады
Да на фронце атрыманых ран.
Потым меў ён пашану ў дзяржаве,
Медалі ён прымаў ва ўвесь рост.
Як памёр ён, магілу ў Варшаве
Прытуліў праваслаўны пагост.

# МОЙ ЛЁС, ЯК ЛІСТОК

Я радзіўся і рос ,як у садзе
Невялікі на дрэве лісток,
Мы ў лістоты зялёнай  грамадзе
Упрыгожвалі сад, як вянок.
Як лісток я вясной рос між кветак,
Не адзін асвятляў нас прамень,
Прыгажэлі мы ў садзе ўсё лета,
Песні птушак мы чулі штодзень.
Потым восень з заходняй краіны
Прыцягнула вялікі буран,
Адарваў ён мяне ад галіны
І тады захапіў злы тыран.
Ён звязаў  мне і рукі, і ногі,
Два гады ён там мучыў мяне,
Бо ў засценках нямецкай барлогі,
Як нявольнік ляжаў я на дне.
Вызваленне  прыйшло мне з усходу,
Ды не мог я вярнуцца дамоў.
Вызваліцель не даў  мне свабоды,
Бо ганяў па чужыне  зімой.
Ён пасля зняў мне путы нявoлі,
Як пачуў я свабоду ў жыцці,
То блукаў па ўсяму наваколлі,
Бо хацеў недзе шчасце знайсці.
А цяпер я спакойны, шчаслівы,
Успаміны пішу для другіх,
Пра даўно пражытыя дзівы,
На жыццёвых дарогах  маіх.

## КАЛІ Я  СПАЎ

Калі я спаў, мой дух, як арол,
Сам блукаў па далёкім сусвеце.
Абляцеў ён Венеру наўкол,
Не пабачыў жыцця на планеце.
        Закрывала Венеру імгла,
        Не заўважыў  азёраў і мора,
        Шар распалены быў дабяла.
        Дух уцёк ад яго вельмі скора.
Дух баяўся на Сонцы агня
І страшэннага выбуху лавы.
І Меркурыя гарачыня
Павярнула  назад яго жвава.
        Як ракета, ляцеў дух  на Марс,
        Абмінуўшы Зямлю і наш Месяц,
        “Марсаходы” гулялі  якраз,
        Дух пабачыў, як  дол яны  месяць.
І  як Марсавых месяцы два,
Фобас з Дэймасам, ноччу там ззяюць.
Абляцеў іх наўкол, як сава,
На Зямлю зноў вярнуўся ў адчаі.
        Ён не ўбачыў жыцця там нідзе,
        Ні зялёных лугоў, яркіх кветак,
        Насякомых, жывёл, ці людзей,
        Ні адзін не ірдзеў там палетак.
Дух вярнуўся праз мой кабінет,
Да мяне прытуліўся раптоўна,
Аб палёце сваім  у сусвет
Расказаў мне ўва сне красамоўна.

## НЕ АЦЭНЬВАЙ МЯНЕ

Не ацэньвай мяне вельмі строга,
Што пабачыць цябе не хачу,
Што забыў да цябе я дарогу,
Каб чароўны твой голас пачуць.
Я хацеў бы рвануцца ўжо ў неба
Да цябе паляцець, як арол,
Толькі ўніз цягне родная глеба,
І пустыя турботы наўкол.
І таму не магу я сардэчна,
Больш цябе прытуліць да грудзей
І дамоў зноў вярнуцца бяспечна,
Не спаткаўшы няшчасця нідзе.
Бо не маю цянер столькі сілы,
Каб па свеце блукаць, як раней,
Каб пабачыць зноў воблік твой мілы,
Твой з табой сняткаваць юбілей.
Я тужу аб табе, сэрца ные,
Што сустрэць не магу зноў цябе,
Помню твар твой і вочы жывыя,
Калі мы прыляцелі ў Бамбей.
Там гуляў я з табой да знямогі
І на лузе знайшлі мурагу…
Не ацэньвай мяне вельмі строга,
Што пабачыць цябе не магу.
Бо трывожныя ў свеце падзеі,
І мой цяжкі душэўны настрой,
У мяне адабралі надзею,
Што сустрэнуся я зноў з табой.

# РАЗВІТАННЕ НА АЭРАДРОМЕ

З табой стаю ў вялікай зале,
А за вакном  аэрадром,
І нас натоўп людзей мінае,
Прад намі ходзіць з багажом.
    Праз рупар чуем мы аб’яву,
    Дзе ў нас ёсць мытная кантроль,
    Што нельга мне да той дзяржавы,
    З сабою везці алкаголь.
Да мытнікаў спяшым паволі,
Да іх з табой стаю ў чарзе,
Міг развітання мімаволі
Усё  бліжэй да нас ідзе.
    Маўкліва па падлозе слізкай
    Багаж свой суну за чаргой,
    Пакута развітання блізка
    Падходзіць разам з мітуснёй.
Апошні позірк мой з любоўю,
Гарачы пацалунак твой,
Абдымкі  моцныя з табою,
Твой развітальны ўзмах рукой.
    Багаж паслаў я на праверку,
    Ступіўшы ў мытны ўжо ўваход,
    Сказаў табе з-за этажэркі:
    „Чакай, сустрэнемся  праз год!”

## КАЛЯДНЫ ВЕЧАР НА ЧУЖЫНЕ

Калядны вечар на чужыне
Прыпомніў я, як ноччу ў сне,
Калі зайграў на мандаліне
Мне сябра песню аб вайне.
Калі ўжо фронт быў пад Варшавай,
Над самай Віслаю ракой,
Чакалі мы баёў крывавых
І вызвалення нас з акоў.
Калядны вечар у няволі
Я меў з дзяўчынай на гары,
З зялёнай ёлкаю да столі,
З марозам вострым на двары.
На стол мы палажылі сена,
І белы на яго абрус.
Прыкрылі коўдраю калені,
Каб ноччу іх не грыз мароз.
На ёлцы запаліў я свечкі,
Каб нам было відней наўкол,
Мы на гары не мелі печкі,
Адзетыя ўвайшлі за стол.
Прыселі мы тады без ежы,
Бо ежу з'елі мы раней,
Сядзелі разам мы ў адзежы
І радасць ззяла нам з вачэй.
Бо чулі мы, што на чужыне
Сядзім мы так апошні раз,
Няволя наша хутка згіне,
Нам вольнасць ззяе, як алмаз.

# МЕСЯЦЫ ВА ЎСПАМІНАХ

Я з'явіўся на свет свежым ранкам
Як у вёску прыйшоў лістапад,
Як Масква святкавала гулянкай,
Там прайшоўшы вайсковы парад.
Снежань звольніў мяне, ветэрана
У Бабруйску з салдацкіх акоў,
Даў надзею, што я нечакана
Вельмі хутка вярнуся дамоў.
Студзень выканаў гэту надзею,
Я сустрэў сваю матку, свой дом,
Ён змяніў майго лёсу падзеі,
Даў пасля мне магістра дыплом.
Люты з доўгай нямецкай няволі
Выслаў хутка мяне ў бой на фронт,
З аўтаматам я бегаў па полі,
Аж забралі ў шпіталь на рамонт.
Сакавік заказаў мне няволю
І пагнаў на чужыну мяне,
Дзе я голад пазнаў і нядолю,
Жыў гады два ў варожай мане.
А пасля паказаў мне Калькуту
І прыгожы Бенгальскі Заліў,
Закупіў там я на судне каюту,
Па Заліве тым суднам праплыў.
Кожны месяц тварыў каляіны,
Па якіх кіраваў мяне лёс,
І засталіся толькі ўспаміны,
Як лятаў я ў абдымках нябёс.

## АДЧУВАННЕ ШЧАСЦЯ

Не ведаем, якою лёс дарогай
Нам пакіруе нашае жыццё,
Ці з радасцю яе мы пройдзем, ці з трывогай,
З вясёлым, ці з панурым пачуццём.
Не ведаем, ці дзесь спаткаем шчасце,
І кожны, як сустрэне, то інакш,
Не кожнаму яго адчуць удасца,
І можа дзесь яго ўспрыняць, як фальш.
Нам рады даць нідзе ніхто не можа,
Дзе шчасце мы ў жыцці маглі б знайсці
Ляжыць яно не раз на бездарожжы,
Куды мы можам з цяжкасцю дайсці.
І трапім на яго мы выпадкова,
Калі не знаем, што рабіць з нуды,
І да канца жыцця мы пад яго аховай
Не будзем знаць ні гора, ні бяды.
Знаходзяць шчасце многія ў каханні,
Іх цешыць радасць блізкіх ім асоб,
Другія чуюць шчасце ў паляванні,
Як звера куляй пападае ў лоб.
А іншы чуе шчасце ў здабыванні
Вяршынь гары, ці полюсаў зямлі,
А селянін ў мінуты спазірання
Вясною на квяцістыя палі.
Калі шчаслівыя, няма сумнення,
Што шчасце мы ў жыцці сваім знайшлі,
Не будзе мучыць нас тады цярпенне,
Што нешчаслівымі жывём мы на зямлі.

## МОЙ БАЦЬКА НЕ ПАДУМАЎ…

Мой бацька не мог уявіць і падумаць,
Што дзесь у Чыкага дзве ўнучкі яго
І з дочкамі праўнук,без смутку і суму,
Жыць будуць заможна ў дамах без даўгоў.
Чужое атрымалі там грамадзянства,
І добрую працу паблізу знайшлі,
Зжыліся яны ўсе з мясцовым мяшчанствам,
І рэдка бываюць на роднай зямлі.
Пакінула ў горадзе ўнучка кватэру.
І ў ёй яе матка зімою жыве,
А ў доме бацькоўскім замкнёныя дзверы,
І клуня пустая, і пуста ў хляве.
Не мог бы падумаць мой бацька з павагай,
Што дзеці яго праляцяць акіян,
Што будуць унучкі з дачкой па Чыкага
Гуляц і хадзіць у музей, рэстаран.
Мой бацька ў жыцці не падумаў ніколі,
Што я ў шынялі і з ружжом у руках
Зімой буду бегаць па снежнаму полі,
Між куль, што ляцелі дзесь ад бальшака.
Што буду я потым у Бахчысараі,
Што ў Індыю я пападу і ў Непал,
Што буду здалёк аглядаць Гімалаі,
Што я пад Парыжам пабачу Версаль.
Што я пяць гадоў пражыву ў Ленінградзе,
Што ўбачу Тбілісі, Баку, Ерэван,
Што буду не раз на індыйскім парадзе,
А потым на пенсіі, як ветэран.

## ПАДОБНЫЯ ДНІ

Падобныя дні ўсе прынесла мне старасць
Не маю ўжо сіл, каб блукаць, як калісь
Далёка ад дома па дзіўных абшарах
Між іншых народаў на нашай зямлі.
Магу падарожнічаць з сумам па кнігах,
Яшчэ дапамогу дае інтэрнэт,
Магу прачытаць там пра Вільню і Рыгу,
Пабачыць далёкія рухі планет.
Прыпомню ў замежжы палацы з вындровак,
Дзе бачыў я многа чароўных аздоб,
І цешуся вельмі, што быў я здаровы,
Што лёс мой мяне там збярог ад хвароб.
Гляджу тэлевізар і ў ім на экране
Заўсёды спаткаю палітыкаў раць,
Паехалі ў Кіеў, крычаць на Майдане,
А людзі ў пажары ў Адэсе гараць.
Хаця яшчэ маю амаль усе зубы,
Ды многа слабейшы ў мяне слых і зрок,
Калі сам іду, не пужаюся згубы,
Бо чую, што пэўны і роўны мой крок.
Я рады, што цёпла зімою ў кватэры,
Хоць я небагаты, жыву без даўгоў,
На старасць мяне не цікавіць кар’ера,
Усё, што мне трэба прыносяць дамоў.
І хоць манатонна мае дні праходзяць,
Я рады, што голад не мучыць мяне,
Хацеў бы ў здароўі дажыць да стагоддзя,
На свой юбілей танцаваць паланез.

## БЕСПРАЦОЎЕ

Не знаў я ў жыцці беспрацоўя,
Бо працу ўсе мелі тады,
Хто мог працаваць, меў здароўе,
То працу атрымаў заўжды.
    Калі мне ўручылі ў палацы,
    У рукі магістра дыплом,
    Кватэру далі блізка працы,
    Я бачыў.яе за акном.
Атрымаў я працу ў Варшаве,
У слаўным праектным бюро,
Рабіў я праекты дзяржаве
Алоўкам і часта пяром.
    І многа прыгожых аб’ектаў
    Паўстала з праектаў маіх,
    З падмогай сяброў архітэктаў,
    Чарцёжніц, дзяўчат маладых.
Яны яшчэ сёння працуюць,
Хаця пастарэлі, як мы.
Энергію твораць жывую
І шлюць яе ў нашы дамы.
    Тады мелі працы ўсе ўдосталь,
    Чужаўся яе дармаед,
    Хоць кары баяўся ён вострай.
    Не знаў яе хворы і дзед.
Тады я не бачыў бяздомных,
Здаровых мужчын маладых,
Якія б пры сметніках поўных
Штовечар шукалі яды.

## ЦЯГНІКІ Ў НЯВОЛЮ

Калісь з Падляшша многа цягнікоў
Ішло з людзьмі ў нямецкую няволю.
У кожным везлі сотні юнакоў,
Дзяўчат з падляшскіх вёсак, гарадоў
У кайданы чужыны і нядолі.
        Іх везлі ўсіх, як стада бараноў,
        Загнаных у таварныя вагоны
        Пры дапамозе гібкіх бізуноў,
        І замыкалі дзверы на замок,
        І гналі іх па рэйках, як шалёных.
У будцы ля вагона вартавы
Сядзеў з ружжом з заложаным патронам,
Прыняўшы выгляд грозны баявы
Сачыў, каб дзесь не выскачыцў жывы
Юнак з адчыненых дзвярэй вагона.
        Вагоны ўсе былі тады без лаў,
        Сядзелі людзі толькі на падлозе,
        Хто быў мацнейшы, цэлы час стаяў
        І праз шчыліны ў сценах падглядаў,
        Як новае міргае асяроддзе.
Такі цягнік завёз мяне калісь
На два гады ў нямецкую няволю.
Там не адны нацёр я мазалі,
Пасля яе ў салдацкім шынялі
З вінтоўкай бегаў я па снежным полі.

## ГОМАН І КРЫКІ

Гоман і крыкі мы чуем усюды,
Нават у ціхім далёкім сяле,
Гучна ў пустыні гамоняць вярблюды
У караване ў пясчанай імгле,
Ноччу пішчаць і лятаюць над намі
Страшаць, кусаюць раі камароў,
Крыкі і брэхі мы чуем начамі
З лесу і з вёскі, сабак і звяроў.
Пчолы і осы гудзяць над лугамі,
Славяцца крыкамі ўсе кірмашы,
Летам камбайны грымяць над палямі,
Мучаць у горадзе шумы машын.
Чуем надрыўныя крыкі рабочых
На дэманстрацыях супраць улад,
Помстай гараць пад іх бровамі вочы,
Хочуць, каб новы прыйшоў хутка ўрад.
Крыкі палітыкаў чуем навокал,
Рэха прыносіць іх дзікі жаргон,
Кожны з іх хоча падняцца высока,
І растаптаць усіх іншых нагой.
Кожны з іх вабіць натоўпы маною,
Ім абяцае паправіць іх быт
Рвецца да ўлады паклёпнай брахнёю,
У ашуканстве выказвае спрыт.
Часта маной ён дарвецца да ўлады,
Памяць ён страціць, што ўсім абяцаў,
Да ашуканых не знойдзе спагады,
Будзе на іх паглядаць, як удаў.

## СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДА

Мы сёння з табою ўдваіх
Сустрэлі наш Новы год дома,
Без добрых сяброў і другіх
Далёкіх і блізкіх знаёмых.
    Две свечкі на белым стале,
    Шампанскае ў светлых бакалах,
    І ноч за акном у імгле,
    Без гучнага бубна і бала.
Адзін я з табой. Ты і я…
І цёплы твой позірк чароўны,
Вясёлая ўсмешка твая.
Твой голас жывы, красамоўны.
    На вуліцы снегу няма,
    Даўно не было ў нас марозу,
    Не страшыць нас звонку зіма,
    Бяздомны не лье побач слёзы.
Петарду пачуў за акном,
Крок Новага года з усходу,
Уздымем бакалы з віном,
Жадаем шчаслівага года.
    Закусваем церпкі шампан
    Абдымкам, жывым пацалункам,
    І вуснаў тваіх талісман,
    Мне стаў дарагім падарункам.
Забылі мы смуткі свае,
Пра нашы жыццёвыя планы…
Здалёк фаерверкі ў акне
Свяцілі, як промняў фантаны.

## ПЕРШАМУ ЎНУКУ

*(Лука Пацэвіч)*

Мінула сёння трыццаць два гады,
Калі цябе сустрэў я ў Беластоку,
Ваеннае становішча тады
Дзяржаву атуліла сумным змрокам.
Каб найхутчэй пабачыць мог цябе,
Атрымаць мусіў я дазвол урада.
За ім стаяў гадзіну я ў чарзе
Зімою да чыноўнікаў улады.
Казалі мне паказваць той дазвол
Са зброяю сутрэўшыя салдаты,
Якіх я бачыў многа навакол,
У горадзе ў будзённы дзень і ў свята.
Пасля з табой я ездзіў у Рэваль,
Ля мора загараць там на палянах,
Глядзелі ў Свінауйсьці фестываль,
Два тыдні быў з табой я ў Закапаным.
Не раз вучыў цябе чытаць буквар,
Хадзіў з табой у школу ціхім крокам,
Завёз цябе ў нямецкі Гайдэ Парк,
Пасля ў Літве ў Палангу, Вільню, Трокі.
Калі ўзмужнеў, пачаў ты ездзіць сам, -
У Грэцыі сустрэў ты Неземіду,
У Турцыі пазнаў жывы іслам
Пабачыў у Егіпце піраміды.
Цяпер вядзеш ты фірму ўжо сваю,
Яна тваёй з’яўляецца скарбонкай,
Уласны дом ты маеш і сям’ю,
Табе ўжо сына нарадзіла жонка.

15.01.2014 г.

## ПАДЗЯКА МАЙМУ ЛЁСУ

Тут выказваю лёсу падзяку,
Што мяне ён ад смерці збярог,
Як я бегаў на фронце ў атаку,
Па палях між варожых дарог.
Што ў няволі я рэдка чуў голад,
Хоць замучыў ён многіх тады,
Што зімой не пужаў мяне холад,
Не пазнаў я смяротнай бяды.
Лёс пасля мне паказваў дарогу,
Як да мэты дабрацца хутчэй,
Каб не мучыўся я ў жыцці многа,
Каб у працы было мне лягчэй.
Заманіў па няволі вучобай,
Скіраваў ён мяне на Няву,
Бараніў там мяне ад хваробы,
Паказаў, як там людзі жывуць.
Даў мне добрую працу ў Варшаве,
Потым жонку і дом,і сям’ю,
Працаваў не ў адной я дзяржаве,
І вяртаўся ў айчыну сваю.
Лёс быў шчодры,даваў мне здароўе,
Не адчуў я на старасць бяды,
Не пазнаў я ў жыцці беспрацоўя,
І пражыў без яго злой жуды.
Так што лёс мой мяне ўзнагародзіў
За няволю ў гадах маладых,
У прыгожым яго агародзе
Даў пражыць мне пасля ўсе гады.

## ХОЦЬ Я СТАРЫ…

Хоць я стары, яшчэ мой мозг
Працуе ўдзень і ноччу спраўна,
Ён помніць тысячы дарог,
Якія парай моцных ног
Калісь прабег я вельмі плаўна.
Яшчэ гарыць жыццёвы воск
І полымя з яго не згасла,
Каб не пужаў мяне пагост,
Яго падтрымлівае лёс,
Да воску падлівае масла.
Мая душа яшчэ жыве
Ужо ў старым спакойным целе.
Глядзіць з цікавасцю на свет,
І бачаць вочы ў галаве
Усё ў жыццёвай  каруселі.
Хаця не мучыць цела боль,
Ад  грознай для жыцця  хваробы,
Мяне не  маніць алкаголь,
А арганізм знаходзіць соль
Патрэбную маёй вантробе.
Жыву паціху, не нашу,
З сабою нават лёгкіх грузаў,
Травы касою не кашу,
Як захачу, то верш пішу,
Калі пісаць паможа муза.
І так плыве маё жыццё
Спакойна, ціха, бесклапотна.
Не плача за сцяной дзіцё,
І ежу маю і піццё,
А  дома  цёпла, немаркотна.

## ДЗЕДАЎСКІ САД

Я помню ў гады маладосці
Ля хаты быў дзедаўскі сад,
Даўно дзед ляжаў на пагосце,
А ў садзе радзіў вінаград.
Вясною бялелі ўсе дрэвы,
Пялёсткі з іх вецер зрываў,
Звінелі птушыныя спевы
На сотнях чароўных актаў.
Раслі ў садзе вішні, і слівы,
Было многа яблынь і груш,
Ля плота асот і крапіва,
А плот абвіваў часта плюшч.
Там яблыні помнілі дзеда,
Як ён іх садзіў, як памёр,
Ваеннае бежанства, беды,
Калі апусцеў дзедаў двор.
Як бабка з сынамі з чужыны
Вярнуліся ў дом свой і сад,
Зрывалі з дрэў грушы, рабіны,
І яблыкі, і вінаград.
Радзіў сад па смерці бабулі
У вёсцы праз некалькі год
На дрэвах ранеты і дулі,
А пчолы давалі ў ім мёд.
І з вёскай пасля ад пажару
Згарэў зусім дзедаўскі сад,
Спалілі яго янычары,
Фашысцкі нямецкі атрад.

## СЦЯРВЯТНІКІ

Чароды  сцярвятнікаў ціха на дрэвах
Сядзелі над гуртам індыйскіх кароў,
Чакалі ў галінах без сваркі, без гневу,
Аж здохне адна з іх, на падла, на кроў.
Скакалі тады з дрэў на мёртвае цела
І рвалі кіпцямі яго на кускі,
З’ядалі яго ўсё пражорліва,смела,
Глыталі са скураю ўсе валаскі.
Астаткі з яды на касцях у каровы
Пасля ачышчалі зусім мурашы,
А птахі чакалі на момант чарговы,
Як дзесь гандляры на сваі барышы.
Сцярвятнікаў часта сустрэнем на свеце
Не толькі між птушак, ці дзікіх звяроў,
Бо многа людзей ёсць на нашай планеце,
Што грабяць, як зверы, чужое дабро.
Чакаюць на буры, паразы, цунамі,
Як людзям стыхія пазбавіць жыцця,
Тады,як сцярвятнікі грабяць гурмамі
Маёмасць ахвяраў, плады іх быцця.
Яны не грэбуюць там падлам, смуродам,
Усё, што захопляць, глыне іх нутро,
Не хочуць яны мець свайго агарода,
Іх толькі цікавіць чужое дабро.
Калі дзесь сцярвятнік шукае нажывы,
Расце на грабеж у яго апетыт…
Сцярвятнік тады толькі будзе шчаслівы,
Калі  абрабуе кагось, як бандыт.

## МАЕ СУСТРЭЧЫ З МОРАМІ

Я дваццаць год не бачыў мора,
Са здымкаў толькі знаў яго,
Нявольнікам я два азёры
Пабачыў раз з двух берагоў.
Глядзеў, як катэры і судны
Плылі спакойна на вадзе.
Тады нас гнаў у дзень паскудны
Фашыст з акопаў па грудзе.
Пазнаў я мора ўжо студэнтам,
Калі Гданьск бачыў першы раз,
Сачыў я хвалі пад брызентам
І слухаў буры гучны бас.
Як жыў студэнтам прад Нявою,
На не адзін хадзіў там пляж,
Купаўся ў моры там вясною
І аглядаў марскі пейзаж.
Пасля купаўся ў Чорным моры
Я ў Варне, ў Залатых Пясках,
Мне ў Сочы ў мора ззялі горы,
Там з пляжа бачыў многа скал.
Раз плыў у Ялту я з Адэсы
Па Чорным моры ва ўраган,
А ў самалёце сцюардэсы
Мне паказалі акіян.
Каспійскі бераг з пекным молам,
Мяне ў Баку вітаў не раз,
У бляску фар вада наўкола,
Там ноччу ззяла, як алмаз.

Купаўся я ў салёных хвалях
Ля сцен Дуброўніка з дачкой,
З сябрамі плыў я ля Бенгаля
Індыйскім катэрам вясной.

## НІКОМУ Я НІКОЛІ НЕ ЗАЙЗДРОСЦІЎ

Нікому я ніколі не зайзросціў,
Хто быў больш здольны ў працы за мяне,
Я запрашаў яго ахвотна ў госці,
Каб сябраваў са мною пры віне.
Нікому не зайздросціў я ў кар’еры,
Таму, хто хутка ўлез на п’едэстал,
Калі ў жыцці ён не стварыў аферы,
Нікога не калоў яго кінжал.
Я не цярпеў ніколі інтрыганства,
Бандытаў, злодзеяў і хітруноў,
Стараўся, каб ахвярай ашуканства
Не быць у палітычных ілгуноў.
Аднак жыць мушу я ў такіх умовах,
Якія вымушае тут жыццё,
І слухаць палітычныя прамовы
Штодзённа з іранічным пачуццём.
І бачыць зло, што творыцца навокал,
Галечу і нажыву між людзей,
Да крыўд грамадскіх прывыкае вока,
Бо іх не зменіць нават чарадзей.

## НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ !

Не забудзьце штогод заглянуць на пагост,
Дзе ляжаць безыменныя недзе салдаты,
Каб падумаць, які іх сустрэў цяжкі лёс,
Нечаканая.смерць дзесь ад куль з аўтаматаў.
　　На магіле пастаўце ім кветак букет,
　　Запаліце ім свечку, а нават лампаду,
　　І падумайце тут пра вайну, пра іх смерць,
　　І пра выбухі бомб, пра гармат кананаду.
Бо хоць сёння не помнім вайны грозны час
І салдат гэтых прозвішчы канулі ў Лету,
Ды салдаты памерлі ў змаганні за нас,
Вызвалялі ад рабства і нас, і планету.
　　Не адзін з іх аставіць мог жонку, дзяцей,
　　А на многіх чакала іх родная матка,
　　А праз цяжкія годы ваенных падзей,
　　Ім маглі не прыслаць аб іх смерці нататку.
І не важна, што між безыменных салдат,
Тут вядомы герой пахаваны ў магіле,
Хай здаецца для вас, што з іх кожны ваш брат,
Што аднолькава ворагі ўсіх іх забілі.
　　І пашану аддайце тут кожнаму з іх,
　　Памаліцеся ціха за іхнія душы,
　　І прадстаўце сябе іх жывых, маладых,
　　Як спявалі ў салдацкіх паходах „Кацюшу”.
Як захопніка гналі ў крывавых баях,
Ад яго вызвалялі людзей і дзяржаву.
Не бянтэжылі іх небяспека і жах,
Не памерлі яны для карысці ці славы.

# НЕБА І ЗЯМЛЯ

## ПРЫЙШЛА ВЯСНА

Прыйшла вясна да нас раптоўна,
Бо ўчора снег быў і мароз,
Змыў ноччу белую бавоўну
З нябёсаў дождж фантанам слёз.
І вераб'іныя капэлы
Яе віталі ўжо зрання,
А ў небе сонца дыскам белым
Над ёй плыло, як арляня.
Пазелянелі ёлкі, сосны,
Смяюцца да вясны здалёк,
І гай бярозавы зайздросна
Пляце не першы ўжо вянок.
З вясной прачнулася прырода,
Цяпло збудзіла ўсіх наўкол.
Дзяўчаты выйшлі ў агароды,
Гудзяць ля вуллёў сотні пчол.
Плывуць у бляску сонца ў рэчку
З лугоў між травак ручаі,
У сонцы, ззяюць, быццам свечкі,
Як светлячкоў мігцяць раі.
І зацвітуць на лузе кветкі,
Між сакавітаю травой,
Заззяюць весела палеткі
І зменіцца ў людзей настрой.
Запоўняцца навокал паркі,
Пабачым там дзяцей, дзяўчат,
Як бегаюць усюды шпарка,
Бо цешацца, што выйшлі з хат.

## БЕЛЫ ТУМАН

Сцелецца ўсюды па шэраму снезе
Зранку па вуліцах белы туман,
Ціха нахабна ў кватэры ён лезе,
Хоча сагрэцца ў іх белы балван.
        Дрэмлюць фасады вялікіх будынкаў,
        Сінія цені між імі людзей,
        Сумна  стаяць у імгле на прыпынках,
        Ці ля дзвярэй магазіна ў чарзе.
Ботамі месяць снег сонныя, злыя,
Бегаюць хутка па сцежках пяшком,
Ходзяць у шубах і шалях на шыі,
Нейкія ў куртках праскочаць цішком.
        Часам заззяе святло недзе ў вокнах,
        Бліснуць здалёку крупіцы ільдоў,
        Іскры засвецяцца нібы валокны
        Колеру золата, срэбра, бардо.
Побач у парку маўклівыя дрэвы
Топяцца ў белым тумане наўкол,
Спяць, іх не будзяць птушыныя спевы,
Іх карані грэе снегу чахол.
        Лаўкі таксама прыкрылі сумёты,
        Белы туман атуліў іх, як шаль.
        Людзі  зімою не маюць ахвоты
        Глянуць у парку  на снежны паркаль.
Рэдка вавёрку пабачым у парку,
Толькі знаходзяць у дуплах цяпло.
Можам пачуць вераб'іную  сварку,
Холад і снег выклікае ў іх злосць.

## ВЯСНОВЫ ЭСКІЗ

Дрэмляць воблакі на люстры рэчкі,
Качкі плаваюць цішком між іх,
А іх вочы свецяцца, як свечкі,
У нябесных промнях залатых.
З сонца льюцца промні ручаямі
На раку, на вербы і на луг,
Мухі ў ценю кружацца раямі,
Вербы аблятаючы наўкруг.
Ззяе луг увесь вясёлкай кветак,
І гудзе між імі сотні пчол,
Пьюць сваю салодкую дыету,
І іх музыку чуваць наўкол.
Памагаюць ім яшчэ стракозы,
Як будзільнікі яны трымцяць,
Вербы плачуць над ракою слёзна
Сумна вочы іх ўніз глядзяць.
Зеляънеюць за лугом шырока
Аж да лесу ад сяла палі,
Рыбы ззяюць у рачных патоках,
У вадзе плывуць, як медалі.
Лёгкі ветрык вее дзесь з- пад лесу,
Ён прыемна людзям гладзіць твар,
Хоча, каб яны не мелі стрэсу,
Скінулі з сваёй душы цяжар.
І раптоўна з купала ля вёскі
Даляцеў царкоўны гучны звон,
А вясна, паправіўшы прычоску,
Заглянула людзям да акон.

## АСЕННІ ДЗЕНЬ

Асенні дзень застукаў на дасвецці
Дажджом у шыбы, як царкоўны звон,
Памог яму халодны моцны вецер,
Які гудзеў і граў, як грамафон.
Галіны гнуў на дрэвах, як шалёны,
Лісцё зрываў, яго кідаў уніз
І кланяцца змушаў ён дрэваў кроны,
І стукаў у аконны мой карніз.
Хоць ручаі дажджу ліліся з хмары
З іх ззяла ўсё яснейшае святло,
Ля рэек заблішчэлі тратуары,
На іх людзей пабачыў я праз шкло.
Усе яны трымалі парасоны,
Якія вецер вырываў ім з рук,
На тоўстай жэрдцы ўбачыў дзве вароны,
І вераб'я, як сеў на чорны крук.
І я глядзеў, і цешыўся, што ў хаце
Прыемна мне, не мокну на двары,
Што працаваць не мушу пры варштаце,
Што я здаровы, хоць ужо стары.
Што маю ў хаце на стале камп'ютар,
Што да мяне даходзіць інтэрнэт,
Што сыты я, адзеты і абуты,
І крызіса не чуе мой бюджэт.
Хаця ў мяне цяпер слабыя крылы,
І не магу, так лётаць, як калісь,
Аднак у непагадзь я маю сілы,
Каб чуць сябе шчаслівым на зямлі.

## ПОМНЮ ПРЫГОЖЫЯ СВІТАНКІ

Помню прыгожыя ў вёсцы світанкі
З небам ружовым на ўсходзе без хмар,
Пырскала промнямі сонца з ляжанкі,
Плаўна ўставала, паказвала твар.
Птушкі будзіліся, ўсе ў наваколлі,
Рэхам разносіўся гучны іх грай,
Кветкі ўсе красіў на лузе, на полі
Золатам ззяючы ўжо небакрай.
Яркім святлом абліваць стаў прастору,
Выйшаўшы ціха ўверх, сонечны дыск,
Быццам нябёсаў блакітнае мора
Славіць з'явіўся ўгары абеліск.
Вобраз яго красаваўся ўжо ў люстры
Вельмі шырокай глыбокай ракі.
Часта з яе акунёў доўгіх, шустрых,
Неслі знаёмыя мне рыбакі.
Чулася ў вёсцы бляянне авечак,
Коней іржанне, мычанне кароў,
Стукат ад колаў, шум конскіх вуздэчак,
Мяўканне кошак і крык пастухоў.
Часта ўставаў я ў такія світанкі,
Будучы ў вёсцы яшчэ юнаком,
Бавіўся ў садзе паблізу альтанкі,
Бегаў ля клуні, пакінуўшы дом.
Бачыў, як сонца далёка на ўсходзе,
Ззяючы, ўгору плыло быццам шар,
І праз хвіліну пры добрай пагодзе,
Доўга ўсміхаўся яго яркі твар.

## ІМГЛА ЗА ВЁСКАЮ

Імгла за вёскаю па полі
Плыла, як шэрая рака,
І залівала луг паволі,
Глытала вільгаць асака.
Імгла закрыла лес завесай,
Не відна зелені здалёк,
І дождж пачаў шумець над лесам,
Як нейкі бурны вадасцёк.
І раптам бліснула свяціла
Праз дзірку ў хмары, і прамень
Заззяў на небе, як кадзіла,
Кідаючы святла струмень.
Дождж адыходзіў дзесь на поўнач,
За лес схавалася імгла,
І сонца выбегла раптоўна
З фантанам яркага святла.
І разагнала хутка хмары,
Ачысціла зеніт наўкол,
Ягоны воблік круглатвары,
Па небе плыў, як ледакол.
Стаў залаціцца купал неба,
Прыгожа ярка і без хмар,
Расою ззяла ў полі глеба,
А луг іскрыўся, як янтар.
У вёсцы чуліся ўжо песні,
Шумеў ля клуняў кожны пляц.
Гатовіліся напрадвесні
Сяляне да вясновых прац.

## ГЛЯДЖУ НА НЕБА

Гляджу на неба цёмнай ноччу,
На зорак бляск у вышыні,
Якія могуць бачыць вочы
З зямлі ў нябеснай глыбіні.
Іх там у космасе мільярды
Гараць ужо праз безліч год,
За кожнай з іх, як ар'егарда,
Бяжыць заўжды планет узвод.
Між колькасцю іх незлічонай,
У бездані, ад нас здаля,
Мы знойдзем там планет мільёны,
Такіх, як нашая Зямля.
Мажліва, што дзесь ёсць планеты,
Дзе нарадзіўся чалавек,
Які стварыў ужо ракеты,
Няма там хворых і калек.
Жывуць яны ўсе там спакойна,
Расце наўкол іх ціхі гай,
Даўно яны не знаюць войнаў,
І цешацца,што маюць рай…
Гляджу на неба цёмнай ноччу,
На наш нам родны Млечны Шлях,
Мае любуюцца ім вочы,
Які прыгожы маем дах.
І зоркі яркія, як свечкі,
Блішчаць, мільгаючы ўгары,
Як хтось рассыпаў зерні грэчкі,
Каб ззялі там, як янтары.

## ПРАЙШЛО ЛЕТА

Прайшло нам прыемнае лета
На дачы паблізу ракі,
Дзе сад быў, раслі ў ім ранеты,
Навокал іх ягад радкі.
Штодзень мы купаліся ў рэчцы,
І грэліся там на траве,
Смакталі маліны пры свечцы,
Нядзелю віталі ў царкве.
А восень прыйшла, і ў Варшаву
Вярнуліся мы ўжо ў свой дом,
У сонечны дзень ходзім жвава
Алеямі парка пяшком.
Глядзім, як жаўцее на дрэвах
Паўсюдна навокал лісцё,
Як птушак замоўкнулі спевы,
Як ціхне ў лістоце жыццё.
Не чуем ужо пчол гудзення,
Няма ўжо амаль камароў,
Палітра ўся ў жоўтых адценнях
Чаруе з усіх гушчароў.
На сонцы блішчаць, як пацеркі
Чырвоныя гронкі рабін,
І рыжыя скачуць вавёркі,
З высокіх зялёных ялін.
Калі я ўжо бабіна лета
Пабачыў у сонечны дзень,
Гуляў я ўжо цёпла адзеты,
Хоць з неба ззяў яркі прамень.

## МОЙ ДУБ

Калісь юнаком пры дарозе на полі
Вясною я жолуд у глебу ўвапхнуў.
Вярнуўшыся потым з нямецкай няволі,
Застаў я дубок, перажыў ён вайну.
Зрабіў я навокал яго агароджу,
Прыкрыўшы саломаю ад халадоў…
Расце там цяпер дуб высокі, прыгожы
І бачу я многа на ім жалудоў.
І чую я летам, як шэпча лістота
На тоўстых галінах навокал ствала,
Што хочуць мяне тут заўсёды з ахвотай
Сустрэць і ў іх ценю схаваць ад святла.
І дзякуе дуб мне, што тут прад вайною
Я добрае месца знайшоў для яго,
Ён чуе, як збожжа спявае вясною,
Зімой захапляецца беллю снягоў.
Што бачыць, як людзі тут ходзяць дарогай,
А часам машына праедзе па ёй,
Што птушак заўсёды тут лётае многа
І снег на галінах іскрыцца зімой.
Я рады таксама, што ў летнюю спёку
Тут знойдзе прахожы пад ім халадок,
Дзіўлюся, што вырас дуб пекны, высокі,
Што дом майго бацькі ён бачыць здалёк.
Я цешуся з ім, хоць мяне мучыць старасць,
А дуб выглядае зусім маладым.
Хай птушкі яму тут іграюць фанфары,
Хачу, каб мой дуб быў прыгожым заўжды.

## ПРЫЦЕМАК

Ноч прыцемкам змяняецца ў дарозе,
Дарога ўся цямнее, як рака,
Кусты, як скалы,  сталі ў дзіўнай позе,
Адзін зусім падобны да ваўка.
Палоска неба ззяе,бы на ўсходзе
І жураўля з’явіўся сілуэт,
Які глядзіць спакойна на калодзеж,
А студня на яго худы шкілет.
Па чорным рэчышчы  іду наперад
І чую з лесу гучны рогат соў,
А з вёскі адзываецца сякера,
Бо печка патрабуе ранкам дроў.
Іду на гукі, дзе мычаць каровы,
Гудзяць над галавою камары,
І з прыцемка ўпадаю  хутка ў прорву,
Якую мне стварылі  гушчары.
Навокал цемра абліла фантанам,
Грабу нагамі і не знаю дзе,
А злы гушчар смяецца акаянны
Супольна з ветрам, кажа:прападзеш!
А я навобмацак іду без страху
І вырываюся раптоўна з гушчароў,
І асляпіў праменнямі  з размаху
Мяне чырвоны месяц, быццам кроў.
На неба выйшаў  ён з-за чорнай хмары
І паказаў мне яркі  свой  рубец,
Пачуўся з вёскі звонкі гук гітары
І  заспяваў дзесь голасна хлапец.

## Я ПОМНЮ ХАЛОДНЫЯ ЗІМЫ

Я помню халодныя зімы,
Як шчыпаў праз футра мароз,
Як з тоўстага снегу кілімы
Закрылі зямлю ўсю наскрозь.
Прыкрылі дарогі і сцежкі,
Гароды, лугі і палі,
А конныя ў санях запрэжкі
Мяне захаплялі калісь.
Грымелі не раз завірухі,
Дзе вецер гнаў снегу струмень
І сыпаў наўкол белым пухам
Праз цэлую ноч і ўвесь дзень.
Мяцеліцы з віхрам сумесна
Шумелі ўсю ноч за акном,
Ад іх завывання і песняў
Дрыжэў да фундамента дом.
Такая зіма грозных „фрыцаў”
Сустрэла калісь пад Масквой,
Адкінула іх ля сталіцы
Марозам, буранам, пургой.
Цяпер маем снежань без снегу,
Цяпло быццам ранняй вясной,
Дажджлівая хмара з разбегу
Апырскае чыстай вадой.

# ВЯСЕННІЯ ДНІ СТУДЗЕНЯ

У студзені з’явілася вясна,
Дыхнула цеплынёй, агрэла горад,
Не чую ўжо з адкрытага акна,
Каб да мяне ляцеў знадворку холад.
Бляск сонца ўсюды бачу на дамах,
Яно іскрыцца за акном у лужах…
Дзесь уцякла халодная зіма,
За пазуху сваю схавала сцюжу.
З сабой забрала хмары ўсе ўгары
І колер неба шэры і свінцовы…
Няма нікога ў кажусе ў двары,
Усе ў кароткіх куртках каляровых.
Ля дома дзеці скачуць па траве,
І бегаюць вясёлыя да стомы,
Там, дзе ляжаў нядаўна наяву,
Снег белы, добра ўсім вядомы.
Рой зайчыкаў кідаюць на мой дом
Ад сонца ўсе аўтобусныя шыбы,
І бліскае рэклама мне святлом,
З крамы, дзе прадаюцца зранку рыбы.
Іду пабачыць Лазенкоўскі парк,
Які ляжыць ад дома недалёка.
Вавёрцы кінуў я малы сухар,
Пабегла з ім на дрэва дзесь высока.
У парку ўсюды поўна дзетвары,
Смяюцца,бегаючы па алеях.
Шчабечуць вераб’і дзесь угары,
Бо цешацца, што сёння сонца грэе.

Сядзіць на лаўках шмат старых людзей,
Яны на сонца выставілі твары,
Каб выглядаць  хоць трошкі маладзей
Па сонечным масажы і загары.
Бо заўтра можа з’явіцца зіма,
Засыпле снегам  паркі і дарогі,
Старыя людзі будуць у дамах
Адпачываць у крэслах ад знямогі.

## У ЛЮТЫМ  ЗАПАХЛА  ВЯСНОЮ

У лютым запахла вясною,
Начны дождж забраў ранкам снег,
Паплыў ён да мора ракою,
Змяніўшы  зімовы начлег.
Заззяла  нам сонца ў блакіце,
Фантан яркіх  промняў  яго
На светлым зямлі каларыце
Грэў раны.ўчарашніх снягоў.
Прачнулася хутка прырода,
Крычаць вераб’і за сцяной,
Іх цешыць цяпло і пагода,
Што пахне ўжо ў лютым вясной.
Спяваюць на дрэвах сініцы,
Я чую іх спеў праз сцяну
Высокай маёй камяніцы,
Бо ў лютым пачулі вясну.
Пад вокнамі бегаюць дзеці,
Яшчэ па вільготнай траве,
Глядзіць на іх сонца і свеціць
Як дыск, з вышыні ў   сіняве.

# АСЕННІ ДУШ

У верасні асенні душ
Абліў сады і агароды,
Змыў пыл і сажу з яблынь, груш
Абмыў дамы і самаходы.
І радасць змыў з маёй душы
Ды мучыць сэрца сум маркотны,
Нішто, не можа рассмяшыць,
На ўсё гляджу ўжо неахвотна.
Хацеў раней я бегчы ў сад
Зрываць з дрэў яблыкі і грушы,
Пакаштаваць там вінаград,
Каб птушак спеў пачулі вушы.
А безупынна льецца дождж,
І цёмныя на небе хмары,
Скрыгоча ціха з галля лоўж,
Здаецца нехта шэпча чары.
Калі гляджу на ручайкі,
На іх бурлівыя патокі,
Як глебу ў садзе на кускі
Ірвуць, то чую сум глыбокі.
Хацеў бы з імі да ракі,
Даплысці, а пасля да мора,
Пабачыць там, як маракі
Стаяць на палубе лінкора.
І я чакаю ў цішыні,
Калі заззяе ў небе сонца,
Калі зноў дажджавыя дні
Закончаць мучыць нас бясконца.

## ЗІМОВАЯ ЗАВІРУХА

Паўстудзеня вясновая пагода
Нас песціла, не мучылі дажджы.
А сонца ззяла нам для асалоды,
Мы ўсе былі ў чароўным міражы.
        І ля вадохрышча прыйшоў раптоўна
        З далёкай поўначы да нас мароз,
        Засыпаў вуліцы наўкол бавоўнай,
        На воды ў рэках ён навёў гіпноз.
І за сцяною потым, як квактуха,
Мне пачала кудахкаць і гусці
Начная вельмі злая завіруха,
А вецер снег па вуліцах мясці.
        У шуме ветру і ў зубах марозу
        Трашчалі гучна дрэвы за акном,
        І плакала са скаргаю бяроза
        І стукала галінамі ў мой дом.
І вецер дзьмуў сняжынкі мне ў шчыліны,
Якія меў зашклёны мой балкон,
А шкло гудзела голасам чмяліным,
Звінела звонка, быццам камертон.
        Сям'ю ўсю завіруха абудзіла,
        Прачнуліся, не могуць зноў заснуць,
        Знадворку далятае пах кадзіла,
        Здаецца нехта ладанам дыхнуў.
Гудзела бура мне ўсю ноч бясконца,
Дрыжэлі сцены ў доме доўгі час,
А ранкам у акно глянула сонца,
Прыгожа засмяялася да нас.

## Я СЯДЖУ НАД РЭЧКАЙ

Я сяджу над рэчкай
Ранняю вясной,
Конскую вуздэчку
Маю пад рукой.
    І гляджу на коней,
    Як траву грызуць,
    Як далей, па гоні
    Хтось вядзе казу.
Як пад хваляй нізка
Рыбіна плыве,
Як матыль сеў блізка
Побач на траве.
    Ззяюць бляскам сталі
    Рыбы ўсе ў рацэ,
    Ракі, як каралі,
    Бачу ў асацэ.
Сонца асвятляе
Ля ракі кусты,
Птушкі там спяваюць,
Чуць іх тры вярсты.
    Пры чароўных гуках,
    Дзіўным пачуцці,
    Я забыў аб муках
    У маім жыцці.
З дзіўнай асалодай
Цешуся вясной,
Сонечнай пагодай,
Лугам і ракой.

## ВЯСЕННІ ЛЮТЫ 2014 г.

Нас сівы студзень снежнаю пургою
Са скавытаннем у астатні дзень
Пужаў, гразіў каварнаю зімою
І дзесь уцёк і згінуў, быццам цень.
Прагнаў яго дажджом і ранкам люты
І растапіў пакінуты ім снег,
І ручаёк, паблізу лёдам скуты,
Паплыў кудысь, пакінуўшы начлег.
Бліснула сонца, лужыны заззялі
Як люстраў рой на зморанай траве,
Рабіны чырванелі, як каралі,
І залаціўся купал на царкве.
Забылі хутка ў лютым мы аб сцюжы
Забылі ўсе, што ў нас была пурга.
Праз тыдзень не было ў нас мокрых лужын,
Трава зазелянела на лугах.
Схавалі людзі кажухі і футры
І ходзяць, бачу, ў куртках і плашчах,
І ззяюць вочы ў іх, як перламутры,
У парках дзеці бавяцца, пішчаць.
Цяпло збудзіла ў вулею ўсе пчолы,
І выслалі разведчыкаў на двор,
Шукаюць кветак на лугах наўкола,
Турбуюцца, што не цвіце чабор.
І ўжо прабег вясенні цёплы люты
Змяніў яго прыгожы сакавік,
Забудзем пра зімовыя атруты,
Прад намі ўжо вясны чароўны лік.

## ЦУД У СУСВЕЦЕ

Цуд з’явіўся на мёртвым сусвеце,
Бог сузор’е знайшоў, Млечны Шлях,
Даў у ім Ён жыццё на планеце.
Той планетаю стала Зямля.
Цудам стала жыццё ў акіянах
У салёнай і цёплай вадзе,
І на сушу прайшло без заганы,
Дзе радзіла звяроў і людзей.
Цудам сталі лясы, джунглі, пушчы,
І мурашак раі, мух і пчол,
Спевы птушак, звяроў крыкі ў гушчы,
І вясёлкі жывы арэол.
Цуд, што бачым мы кветкі на лузе
І плантацыі радужных роз,
І як ззяюць палі ў кукурузе,
Як блішчыць лёд на рэчцы ў мароз.
Цудам стала пажыўная глеба
На астылай калісьці Зямлі,
Бо штогод родзяць зерні для хлеба
Чорна-жоўтыя летам палі.
Цудам стала, што ў глебе хапае
Да ўраджаяў салодкай вады,
Дзе мы глебу вільготную маем,
Там растуць і лясы і сады.
Хоць нямала жыццёвых абсурдаў
У людскі не адзін б’юць хрыбет,
То жыццё на Зямлі стала цудам
У бязмежным сусвеце планет.

# МАЁ ПАДЛЯШША

## КАЛЯДКІ ПАДЛЯШСКІХ ДЗЯЦЕЙ

Хоць многа вёсак на Падляшшы
Старэе, траціць жыхароў
І ноччу ў іх бязлюддзе страшыць
З пустых дамоў і гушчароў.
Ды маем вёскі, дзе шчасліва
Цвіце культурнае жыццё,
Дзе песенныя калектывы
Спяваюць з дзіўным пачуццём.
І праваслаўныя калядкі
Спяваюць дзеці іх з “гвяздой”,
Дзіцячы голас, звонкі, гладкі,
Наводзіць радасны настрой.
Калядак гукі, як патокі
Ліліся ўдзень з дзіцячых губ,
Калі спявалі ў Беластоку,
Як іх гасціў вайсковы клуб.
І разам з гарадскімі дзецьмі,
Як у палацу караля,
На сцэне клуба на канцэрце
Спявалі “Неба і зямля”.
Там больш, як трыццаць калектываў
Дзяцей спявала для гасцей,
Змяняліся яны рупліва,
Пры гучных воплесках людзей.
Гасцілі з Орлі там “Арляне”,
“Каліна” гучная з Дашоў,
З’явіліся там “Чыжавяне”
З сваймі калядкамі з Чыжоў.

Былі з Маліннікаў „Малінкі”
А з Белавежы “Ручаёк”…
Малыя хлопцы і дзяўчынкі
Зачаравалі Беласток.



1976 г. Парыж. Дмітрый Шатыловіч з жонкай Нінай.

## ЗМЯНІЛАСЯ ВЁСКА МАЯ

Змянілася вёска мая,
Дзе я нарадзіўся калісьці,
Якую спалілі ў баях
У дні адступлення фашысты.
Калі з мёртвых жыхараў кроў
Па бітве ўвайшла ўжо ў іржышча,
То вёска ўваскрэснула зноў
На свежым яшчэ папялішчы.
Калі я яе ў час зімы
Знайшоў у абставінах мірных,
Я новыя ўбачыў дамы,
Хлявы, побач пуні і свірны.
Праз доўгі час вёска цвіла,
Радзіліся новыя дзеці,
Прыгожыя песні з сяла
Разносілі рэха і вецер.
З'явіліся ў ёй трактары,
Касілкі, жняяркі, камбайны,
На дахах антэны ўгары,
А ў кухнях з вадой трубы, краны…
Змянілася вёска цяпер,
Бо хочацца многім сялянам
Шукаць за мяжою кар'ер,
І працу за акіянам.
Нямала дамоў чужакі
У вёсцы нядаўна купілі,
А ў хатах пустых павукі
Усё павуціннем пакрылі.

Стаіць чарада нямых хат
І цвіллю пакрытыя клуні,
Там вецер цяпер б’е ў набат,
Дзе песні спявалі пявунні.
Ды многа старэйшых сялян
Жывуць яшчэ, хлеба не просяць,
Збірае ўралжай ім камбайн,
Лугі  іх касілкамі  косяць.



2008 г. Дзмітрый  Шатыловіч і Георній Валкавыцкі.

## 55 ГАДОЎ „БЕЛАВЕЖЫ”

Пяцьдесят пяць гадоў „Белавежы” мінула,
Дзень народзін яе ўспамінаю, як сон,
Аб’яднанне тварылі на сходзе мы чула,
Каб для творцаў было, як святы пантэон.
І назвалі тады мы яго „Белавежа”,
Каб, як пушча, гусцела ад творцаў наўкол,
Маладых, працавітых, зусім незалежных,
Каб іх столькі было, як у вулею пчол.
І ў тыднёвіку „Ніва” гусцела ад твораў.
Паявіўся на свет першы зборнік наш „Рунь”,
Гукі вершаў яе сталі чутнымі скора
У вясковых святліцах, пад сценамі клунь.
І пісалі аб „Руні” навокал газеты,
Быццам рэха, пабег за мяжу аб ёй слых,
Друкаваць сталі зборнікі нашых паэтаў,
Кнігі пісьменнікаў даганяць сталі іх.
Многа трапіла іх пад сялянскія дахі,
І да ўсіх беларускіх ліцэяў і школ.
Беларускія цешылі ўсіх альманахі,
З „Тэрмапіламі” ўсе іх чыталі наўкол.
Святкавала яна не адны юбілеі,
І мінула ўжо ёй пяцьдзесят пяць гадоў,
Пераможна прайшла ўсе ў дзяржаве падзеі,
І аставіла многа іх творчых слядоў.
І хоць многіх сыноў яе ўжо смерць забрала,
„Белавежа” цвіце, быццам кветкі вясной,
Маладых новых творцаў знаходзіць удала,
Адчувае сябе, як раней, маладой.

## МІКАЛАЮ ГАЙДУКУ

Хоць мы сустракаліся рэдка,
Я знаў твае погляды з „Нівы”,
Сумленным ты быў тады сведкам
Падзей гістарычных, руплівец!.
З тваіх таямнічых сказанняў
Пазнаў я князёў над Дзвіною,
А з іншых кароткіх паданняў
Яшчэ ўладароў над Літвою.
Раз трапілі нашыя вершы
У зборнічак вершаў, у „Руні”,
А потым „Ціш”, зборнік твой першы,
Мог спеўнікам стаць для пявунняў
Ды хутка ты выдаў пявунням
Збор песняў з іх роднай айчыны,
Якія ля хат і ля клуняў
У вёсках спявалі дзяўчыны.
Паспеў напісаць ты дзве кнігі
Аб Пушчы сваёй Белавежскай,
І аб езуіцкіх інтрыгах
Дыктатараў уніі Брэсцкай.
Я помню, як мы ў Беластоку
Сустрэліся на семінары,
Ды смерць да цябе хуткім крокам
Прыйшла ў тваім творчым разгары.
Тваю на Падляшшы сцяжыну
Спыніла яна без сумлення.
Застануцца доўга ўспаміны
Аб творчых тваіх дасягненнях.

## ШАПТУХІ

Я не бачыў калісь дактароў,
У дзяцінстве і ў дні маладосці.
Хоць хварэў я ад мух, камароў,
Ад прастуды  і меў часам млосці.
І сяляне хварэлі тады,
Ды лячыліся зёлкамі самі,
Іх лячылі лясы і сады,
І шаптухі сваімі дарамі.
Дактары ўсе жылі ў гарадах,
І жадалі даць грошай нямала,
Для шаптух рвалі фрукты ў садах,
Ці муку ім занеслі, ці сала.
І шаптуха махала рукой
Над ахвярай, гаворачы чары,
І паіла крынічнай вадой,
Часта зёлкі давала ахвяры.
Памагала ўнушэнне  яе,
Што ад чараў ён будзе здаровы,
І на шыі з каменняў  калье,
Ды яе гіпнатычныя словы
І не доктара лечыў укол,
Калі сябру ўкусіла гадзюка,
А шаптуха балячку наўкол
Акруціла ільнянай дзяругай.
Піў ён зёлкі ў яе цэлы дзень,
Там пад пледам ляжаў каляровым,
Яд галзюкі  дзесь згінуў, як цень,
Друг дамоў сам вярнуўся здаровым.

## БАЦЬКОЎСКАЯ ХАТА

Многа год я не чую зязюлі,
Не спявае мне тут салавей,
І не бачу ўжо градак цыбулі
Блізка хаты бацькоўскай маёй.
Хата бацькі стаіць там самотна,
Там мой здымак вісіць на сцяне,
Ці яна мяне помніць маркотна?
Ці яна ўжо забыла мяне?
Хата доўга стаяла замкнёна
І забыла напэўна гады,
Калі беглі тут танкаў калоны
І гарэлі дамы і сады.
Да яе толькі часам загляне,
Як прыедзе на свята, сястра.
Нават мэбля яе ў добрым стане.
Бачыць студня ўсю хату з двара.
Бачыць вокны яе ў сумных сценах
І чырвоны бляшаны ўвесь дах,
Комін белы з шырокай антэнай,
Над ім рэе яна, быццам птах.
І пустыя хлявы бачыць побач
Без каня, без свіней, без кароў,
Не заўважыць ніводнай асобы,
Не пачуе ні піску, ні слоў.
Бачыць клуню, яна за гародам,
І таксама пустую зусім,
Летам ззяў перад ёй у пагоду
Агарод, як чароўны кілім.

## КАСЬБА

Калісь у сенакос касцы кляпалі косы,
Ад стуку малаткоў дрыжэлі ў хатах сцены,
І кожны з іх пасля хутчэй бег на пакосы,
Каб там махаць касой у дрыгве па калена.
Касілі цэлы дзень у сонечнай спякоце,
І толькі на абед маглі мець перапынак,
І зноў каса ў руках і дзве нагі ў балоце,
Калі скасілі луг, ішлі на адпачынак.
А на наступны дзень на мураву за лугам
Збірала ўся сям'я рассыпанае сена,
І на плячах нясла па дрыгве і з натугай,
Каб высахла яно на сонечных праменнях.
Я помню, як выносіў сена раз з балота,
У цюках на плячах на мураву сухую,
Я бацьку памагаў у сенакос з ахвотай,
Збіраў траву ў цюкі, вязаў яе ўручную.
Балота асушылі ў вёсцы прад вайною,
Засеялі яго прыгожаю травою,
І доўгі час яшчэ касілі луг касою,
Ды сена ўжо з яго вывозілі сухое.
Цяпер на лузе там гудзяць сенакасілкі,
Збіраюць сена хутка граблі з трактарамі,
Сяляне ўжо забылі косы і сушылкі,
І дрыгву па калена пад сваймі нагамі.
Цяпер вязуць машыны сена з лугу ў клуні,
Бо рэдка коні ўбачым у хлявах сялянскіх,
Хутчэй пабачыць можна ў вёсцы прыгажуняў,
Як едуць самаходам дзесь амерыканскім.

## ДРОВЫ

З дзён дзяцінства мне помняцца дровы,
Як іх з бацькам я ў лесе збіраў,
Як я сек іх з бярвёнаў сасновых,
Як паліў іх зімою ў кастрах.
Як калоды я ўкладваў у стосы,
Як прывозіў іх возам дамоў,
Як у возе скрыпелі калёсы,
Мне ад грузу накладзеных дроў.
Як змушалі мяне акупанты
Працаваць ім у лесе зімой,
Як крамлёўскія чуў я куранты,
З партызанамі ўдзень пад сасной.
Бо прыйшлі да мяне партызаны
І прнеслі прыёмнік з сабой,
На сасне ля прыгожай паляны
Ён звязаў нас з далёкай Масквой.
Як пасля я на дровы ў няволі
Зрэзваў сосны з сяброўкай маёй,
Сек сякерай сасну без патолі
Асабліва халоднай зімой.
Мы ў каморцы складалі палены
Аж да столі ля самай сцяны,
Дровы там закрывалі ўсе сцены,
Смаляны пах ляцеў ад сасны.
Мне цянер непатрэбныя дровы,
Радыятар дае мне цяпло,
Газ мне варыць яду шматразова,
Электрычнасць дае мне святло.

## ПУСЦЕЕ ПАДЛЯШША

Пусцеюць вёскі на Падляшшы,
Сялян няма ў іх маладых,
Не відна ўжо кароў на пашы,
Марнеюць блізка хат сады.
Стаяць наўкол пустыя хаты,
Зусім прыгожыя яшчэ,
Здаецца, што далей багата
У іх жыццё бурліць, цячэ.
Наўкол іх бачым агароджу,
Паблізу крытыя хлявы
Выглядваюць яшчэ прыгожа,
Пры іх сялян няма жывых.
Няма ў пустых хлявах жывёлы,
Няма гусей, няма курэй,
Няма цяпер у вёсцы школы,
Не відна моладзі, дзяцей.
Жывуць яшчэ старыя людзі
У хатах бедных і старых,
Па вёсцы ходзяць і марудзяць,
На хмары сочаць угары.
Купілі недзе ў вёсцы хаты
Ужо з-за Буга чужакі,
Яны ўдаюць паноў багатых,
Людзей вучоных, гарадскіх.
Пры іх сялян амаль палова
Гаворыць мовай чужакоў,
А родную забылі мову,
Якую зналі ад бацькоў.

## БЕЛАРУСЫ НА ПАДЛЯШШЫ

На Поддяшшы ўжо многа стагоддзяў жылі
Беларусы ля іншых суседніх народаў,
І прыгожыя цэрквы на гэтай зямлі
Будавалі яны ў праваслаўных прыходах.
 І маліліся там у сваіх святароў,
 І на гэтай зямлі мы іх бачым магілы,
 Мелі родную мову, на мове бацькоў
 І без сораму ў вёсцы на ёй гаварылі.
І вярнуліся з бежанства з доўгай вайны
Да разбураных вёсак, як не ў тую дзяржаву,
Каб дамы будаваць і зямлю з цаліны
Вызваляць без машын, без худобы, без стравы.
 І калі разжыліся, другая вайна
 Зноў спаліла дамы іх і цэлыя вёскі,
 І бандыты грaзіць пачалі ім штодня,
 Іх на ўсход выганяла „пракдятае войска".
Многіх выгналі з вёсак тады ў гарады.
Ці на ўсход у савецкі гулаг, ці ў калгасы,
Пакідалі для банд і дамы, і сады,
І жывёлу ў хлявах, і на зіму запасы.
 А цяпер часта ў тых, што жывуць у сяле,
 Уцяклі іх унукі шукаць лепшай працы,
 І жывуць за мяжой у ангельскай імгле,
 Ці ў Чыкага працуюць, шаруюць палацы.
І так курчыцца тут беларускі народ,
Бо фатальныя ў вёсках прайшлі землятрусы,
Шавіністы, іх ворагі, будуць штогод
Сустракаць на Падляшшы ўсё менш беларусаў.

# ЗАГАНЫ

## Д’ЯБЛЫ

Д’яблы не тыя, якіх знаем з казак:
З лбамі – з рагамі, з хвастамі – зады,
Быццам бы мелі яны абавязак,
Каб спакушаць да грахоў нас заўжды.
Быццам іх людзі пужалі іконай,
Кнігай святою, ці крыжам з Хрыстом,
Вушы свае ад царкоўнага звону,
Хутка хавалі яны за кустом.
Гэтыя д’яблы цалуюць іконы,
Хрысцяцца часта, не маюць рагоў,
Б’юць штонядзелі ў святынях паклоны,
Моляцца часам да многіх багоў.
Бачым іх часта шыкоўна адзетых,
Маюць дзесяткі прыгожых машын,
Ззяюць у іх на плячах эпалеты,
Голас салодкі ў іх, як сахарын.
Толькі паціху ў замкнёных палацах
Д’ябальскі свой абмяркоўваюць план,
Хочуць нявольнікаў змусіць да працы,
Каб іх давесці да болю і ран.
Д’яблы калісь газавалі, палілі
У крэматорыях гурмы людзей,
Д’яблы пасля на Падляшшы забілі
Шмат праваслаўных жанчын і дзяцей.
Д’яблы цяпер высылаюць на войны
Дзесь на чужыну атрады салдат,
Каб умiралі ад куль бранябойных,
Ці ад снарадаў варожых гармат.

## ЕЎРОПА

Мы атрымалі з Еўропы
Сёння нечаканы клопат
Страшыць крызісам яна.
Бо ў Еўропе ёсць дзяржавы,
Дзе з фундаментам іржавым,
Кожная дрыжыць сцяна.
Дзесь пазык набралі многа
І жадаюць дапамогі,
Каб сплаціў хтось іх даўгі.
А ніхто цяпер ахвоча
Іх даўгоў сплаціць не хоча,
Для кішэні дарагіх.
Для найгоршага банкрота
Дзесь знайшлася ў іх валюта
І ратуюць ад даўгоў.
Кажуць, толькі апетыты
Абмяжоўваць сібарытам
Да раскошных пірагоў.
І падняўся шум вялікі:
Забастоўкі, жахі, крыкі
У дзяржаве ўсіх людзей.
Там ніхто цяпер не хоча:
Ні чыноўнік, ні рабочы,
Жыць праз нейкі час бядней.
І плыве ў Еўрасаюзе
Спрэчак хваля, як у шлюзе.
Ён дрыжыць, як камертон.
Не паслухаў іх парады,
Вырваўся з яго прынады
Неразважны Альбіён.

У парламентах Еўропы
Стрэлы чуць, як у акопах,
Ксенафобы б’юць наўгад.
Гмах трашчыць Еўрасаюза,
Як на тоўстым торсе блуза,
Стаў грaзіць яму распад.

## ДЗЕНЬ ПАСЛЯ НОВАГА 2014 ГОДА

Прабег дзень сёння хутка, як заўжды,
Спакойна, ціха ў гарадской кватэры,
Ніхто чужы, стары ці малады,
Не пазваніў мне нават зранку ў дзверы.
Зімою дождж я бачыў за акном,
Які мачыў траву паблізу дома,
І сумна мок суседні шэры дом,
Глядзеў маркотна ён на вяз знаёмы.
Па вуліцы чэргі малых машын
Ляцелі гучна ў розныя напрамкі,
Наўпрост рэклама ззяла, як бурштын,
Аўтобусы два моклі ля стаянкі.
І ў тэлевізары пачуў я раптам шум,
Што ўчора здарылася дзесь прыгода:
Шафёр уехаў п’яны ў нейкі тлум,
Забіў машынай ён пяць пешаходаў.
Яшчэ параніў ён траіх дзяцей,
Хлапчук памёр, як везлі да шпіталя.
У Новы Год трагедыя людзей
Ад п’янага ў нас вылюдка спаткала.
Шумяць палітыкі ўжо доўгі час,
Павысіць кары хочуць для шафёраў,
Якія, п’яныя, вядуць не раз
Свае машыны, быццам метэоры.

## САМАГУБСТВЫ

Як эпідэмія ў дзяржаве,
Запанавала беспрацоўе.
Яно пазбавіла ў няславе
Ахвяр псіхічнага здароўя.
Жывуць мільёны з дапамогі,
Дзяцей галодных шлюць у школы,
Бяздомных тысячы ў бярлогах
Спяць, як галодныя жывёлы.
Штодзень стаяць за цёплым супам,
Яны ў чарзе перад вакзалам,
Ля сметнікаў іх бачу ў групах,
Жыльцоў тунеляў і падвалаў.
Зімою гінуць ад марозу,
А летам часта ад забойства,
Адны ўміраюць ад неўрозу,
Другіе ад самазабойства.
Цяпер людзей больш памірае,
Чым родзіцца іх у дзяржаве.
Пабольшваецца маладая
Злачынцаў, злодзеяў арава.
Таму расце больш самагубстваў,
Сярод бяздомных, беспрацоўных,
І больш разводаў, больш распусты,
Пры прапагандах красамоўных.
Бо беспрацоўе так маўкліва
Нясе галечу для народа,
І творыць з самагубцаў жніва.
Іх гіне больш і больш штогоду.

# З ДАЛЁКІХ СТАГОДДЗЯЎ

З далёкіх стагоддзяў, з брам папскага Рыму
Даходзіць да нас боль ад створаных ран,
На целах народаў кіпцямі жывымі,
Якія прынёс у Еўропу Каран.
Паходы крыжовыя ўсёй Візантыі
Нанеслі паразу, як грозны вулкан,
Як смерч, як найгоршыя ў свеце стыхіі,
Каб мог яе знішчыць турэцкі султан.
Пасля захапіў ён другія народы,
І многіх прымусіў прыняць свой іслам,
Пасеяў між імі ён зерне нязгоды,
Якія вядуць на Балканах да драм.
Дайшло да трагедый у Косаве, ў Босні
Згубіла варожасць там многа людзей.
Нянавісць радзіла плады ў днях апошніх
З засеяных зерняў з далёкіх падзей.
Пасля езуіты ад брам Ватыкана,
Цішком распаўзліся шукаць каравай
Па цэламу свеце, як гурт тараканаў,
Папалі ў Амерыку,ў Польшчу, ў Кітай.
Змушалі ў нас сілай прыняць уніяцтва,
Стварылі Багдана Хмяльніцкага бунт,
Які супраць іх падбухторыў казацтва,
Аслабіў каварнай іх дзейнасці грунт.
Ды зерне тых звад, што пакінулі ў глебе,
Між намі варожасці родзяць плады,
Бо іншых святых паважаем на небе,
Святкуем інакш мы сваі каляды.

## ЦІ ЁСЦЬ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ ?

Ці ёсць справядлівасць на нашай зямлі? –
Сустрэўшыся з крыўдай, пытаюцца людзі,
Шукаюць яе, як шукалі калісь,
З надзеяй, што знойдуць і з імі жыць будзе.
Не могуць усе паглядзець ёй у твар,
Ці нават яе дзесь пабачыць здалёку,
Не ведаюць нават, ці мае загар,
Ці дзіўнаю бледнасцю ззяе звысоку.
Шукаюць, не ведаюць, дзе ёсць яна,
Калі тэрарысты бушуюць усюды,
Калі не сціхае на свеце вайна,
Калі яшчэ робяцца дзесь самасуды.
Шукаюць яе ўсе салдаты ў баях,
Якія крывавяць, атрымаўшы раны,
І тыя, якіх укусіла змяя.
Шукае яе чалавек катаваны.
Знайсці яе хочуць мільёны дзяцей,
Якія ўміраюць ад голаду, смагі,
Паміж афрыканскіх пяскоў і касцей,
Пад сонцам гарачым у пашчы знявагі.
Сустрэць яе рады гурты хрысціян,
Якія пакінулі ў Сірыі хаты,
Пачуўшы крывавых салдат мусульман,
Якія страляюць у іх з аўтаматаў.
Хоць клічуць усе, каб прыбегла да іх,
Яна, як глухая, не чуе нікога,
Схавалася недзе, там страціла слых,
Яе не цікавіць, што зла ўсюды многа.

# ВЕРШЫ

## ВЕРШ МОЖНА ПІСАЦЬ…

Верш можна пісаць, каб усе зразумелі
Сэнс думкі, якую прадставіў паэт,
Ці розныя зместы змяшаць, як кактэйлі,
Каб быў недарэчны ягоны сюжэт.
Складае ён верш з мудрагелістых сказаў,
Якія не звязаны сэнсам з сабой,
Уклейвае там патаемныя фразы
І скручваюць іх у адзіны сувой.
І нейкія людзі чытаючы хочуць
Знайсці ў дзіўных вершах якісьці сакрэт,
І часам шукаюць у ім слоў прарочых
Або таямнічы ў жыцці запавет.
І згадваюць сэнс у напісаных строфах
Загадкавых вельмі заблытаных слоў,
Ці не прадвяшчаюць яны катастрофы,
Дзе можа паліцца і слёзы, і кроў.
Калі верш ні рытмаў, ні рыфмаў не мае
Яго неракладчыкі любяць заўжды,
Такі верш без цяжкасці перакладае
У школе, як прозу хлапец малады.
Паэзія сёння чытаецца рэдка,
Бо моладзь не любіць чытаць сёння кніг.
Лягчэй для яе пры экране быць сведкам
Навокал жывых палітычных інтрыг.
Ніхто з іх не будзе чытаць цяжкіх вершаў,
Бо гэта для іх, як трымаць цяжкі груз,
І творца, хай ведае, голаў задзершы,
Што творыць ён іх для сябе і для муз.

## ПІШУ Я ВЕРШЫ НЕ ДЛЯ СЛАВЫ

Пішу я вершы не для славы,
Не для таго, каб білі:брава!
На мове я пішу свыёй.
Пішу, як творчае натхненне
Дае мне імпульс да тварэння
І маю радасны настрой.
    Тады знаходжу хутка тэму
    На верш кароткі, не паэму.
    І на кампютэры пішу,
    Выходзіць часта верш нязграбны,
    Для многіх нават непрывабны,
    І не хапае за душу.
Пасля паправіць верш карэктар.
І я яго, як архітэктар,
У зборнік мушу дзесь схаваць.
Як зборнік вершаў выйдзе з друку,
То могуць крытыкі, як крукі,
Праз доўгі час яго кляваць.
    Бо крытыкаў ліхія словы
    То для мяне, што ў лесе совы,
    Не маюць вартасці, не-не!
    Магу іх прачытаць з уцехай,
    Ці нават з іранічным смехам,
    Заўвагі іх не для мяне.
Любіць я вершаў не змушаю,
Хто хоча, той няхай чытае,
У кожнага ёсць іншы густ.
Калі друкуюць вершы ў кнігах,
То злосных крытыкаў інтрыга
Стае атрутаю, як дуст.

# ПАДАРОЖЖЫ

## ІЗНОЎ У БЕРЛІНЕ

Гуляю зноў па вуліцах Берліна,
І ўспамінаю жудасныя дні,
Калі блукаў я па яго руінах,
А ён стаяў навокал у агні.
Не напаткаў я ні адзін завулак,
Дзе я тады хаваўся за сцяной,
Знаёмых вуліц я шукаў у дні прагулак,
Я не знайшоў праз тыдзень ні адной.
Я сёння помню строкат кулямётаў
І выбухі ад мінамётаў мін,
Як мы ўбягалі ў дзверы ці ў вароты,
Каб захапіць паверх ці магазін.
Тады ў падвалах дзеці і жанчыны
Глядзелі з дзіўнай бояззю на нас,
А ў нейкіх позірк бачыўся змяіны,
Да помсты быў гатовы ў кожны час.
Цяпер стаіць ля Брандэнбургскай Брамы
Ужо ў нямецкай форме вартаўнік,
Запоўнены таварамі ўсе крамы,
І ходзіць сыты кожны працаўнік.
Цяпер усё змянілася навокал,
Бо ўсё, што бачыў тут, даўно прайшло,
Сцяг над Рэйстагам зноў дрыжыць высока,
Здаецца.што вайны тут не было.
І даўняй ксенафобіі не чую,
Якую адчуваў пры іх у дні вайны,
Калі цяпер я з імі тут працую,
Выказваюць мне ветлівасць яны.

## НОВЫЯ ТРОКІ

Чырвоную крэпасць у Троках
Пабачыў я некалькі раз,
Там з замкавых веж з-пад аблокаў
Глядзеў я на пекны пейзаж:
        На возера Гальве і Луку,
        Якія абняўшы вакол
        Прыгожую крэпасць у рукі,
        Трымалі яе, як атол,
На мост  над вадою шырокі,
Які дабягае да хат,
На караімскія Трокі,
Якія блішчаць, як агат.
        Калісьці князь Кейстут з Бірутэ
        У замку са службай жылі,
        І ў ім крыжакоў вельмі лютых
        Яны праз гады  сцераглі.
Яна нарадзіла для мужа
Дачок  дзвюх, трох слаўных сыноў.
Там дочкі раслі да замужжа
З братамі праз многа гадоў.
        А потым  каварны Ягайла
        У госці сям'ю запрасіў,
        Схапіў ён там Кейстута ўдала
        І ў Крэве яго задушыў.
Сын Кейстута Вітаўт умела
З засады  падступнай уцёк.
І ў страху данёс сваё цела
Праз пушчы дарогай да Трок.

## СОНЦА АБУДЗІЛА

Калісь разбудзіла мяне сонца ранкам,
Калі я ляцеў у Калькуту з Масквы,
Яно асляпіла мяне праз фіранку
Акна самалёта святлом веснавым.
        Мне спаць не дало, паказала, што ўнізе
        Далёка блакітны блішчэў акіян
        Я бачыў на ім, як на пекным эскізе,
        Як плыў караблёў не адзін караван.
А злева было Аравійскае мора,
Ззяў ярка паўвостраў за намі здалёк,
Ад іх адляцеў самалёт вельмі скора,
І ў сіняй прасторы купаўся мой зрок.
        Крыло самалёта хісталася плаўна,
        Зіхцела ў блакіце за шыбай акна,
        Прастору паднебную рэзала спраўна,
        Скрыпела зубамі матора дзясна.
І раптам пачулі мы голас пілота:
Загад нам усім зацягнуць паясы.
Мы ўбачылі сушу ў акне самалёта,
Ля берагу мора палі і лясы.
        І аэрадром мне заззяў з-за фіранак,
        Наш птах апускаўся ніжэй і ніжэй,
        Праскочыў пасёлак з гліняных мазанак
        І сеў. Прывітаў яго горад Бамбей.
Маглі мы ў будынку іх аэрадрома
Пабачыць з індускім таварам ларкі,
Між імі блукаць паўгадзіну да стомы,
Купіць за валюту два-тры піражкі.

## ДАВЫД–ГАРАДОК

З турыстамі раз на Палессі
Праехаў я ранкам раку,
Нам купал зазяў з паднябесся
І крыж у Давыд-Гарадку.
 Аўтобус наш ехаў па мосце
 Над светлай ракою Гарынь,
 Унізе два катэры ў злосці
 Рачную трывожылі плынь.
Царква Маці Божай Казанскай
Прасіла ўвайсці ціха нас,
Там з моладдзю ціхай сялянскай
Маліліся мы нейкі час.
 Пасля мы знайшлі гарадзішча,
 Дзе замак калісьці стаяў,
 Няма ўжо цяпер папялішча,
 Дзе бой і пажар бушаваў.
Легенду мы чулі, што горад
Калісь заснаваў князь яцвяг,
Другая легенда гаворыць:
Стварыў горад кіеўскі маг.
 Аднак князь Давыд Гарадзенскі
 Тут з помніка толькі глядзіць,
 Няма ўжо царквы Васкрэсенскай,
 Георгіеўская бачу стаіць.
Ізноў мы вяртаемся ў Столін,
Каб нас не застаў недзе змрок,
Адтуль не прыедзем ніколі
Мы больш у Давыд- Гарадок.

## ХЕРСАНЕС

Калісь аўтобусамі з Ялты
Праз горы, пале і праз лес,
І па жвірах і па асфальтах
Давезлі нас у Херсанес.
Там кіеўскі князь Уладзімір
Прыняў ад Візантыі хрост,
І хрысціянства хутка з Крыма
На Русь прыйшло праз той фарпост.
Яго сабор у Херсанесе
Стаіць між грэцкіх камянёў,
На купале крыж ззяе ўверсе,
Відаць яго з усіх бакоў.
Ад старажытных грэцкіх храмаў
Мы бачым некалькі калон,
Паміж дзвюх тоўстых, як над брамай,
Хістаецца прыгожы звон.
Сядаюць чайкі на калонах,
Крычаць і цешацца з руін,
Зліваецца іх крык са звонам
З званіцы жоўтай, як бурштын.
Калоны помняць скіфаў, грэкаў,
Напэўна помняць і рымлян,
Пазналі многа розных здзекаў,
Татарскіх і турэцкіх ран.
І немцаў помняць ля сабора,
На Крыме цяжкія баі…
Цяпер глядзяць спакойна ў мора,
Як праплываюць караблі.

## ДАЎГАЎПІЛС

Каліс быў некалькі разоў
У Даўгаўпілсе я ў сяброў,
Паблізу цэрквы стараввераў,
Малітвы чуў іх у кватэры.
        Дзе мечаносцы праз вякі
        Свой замак мелі ля ракі,
        Купаўся я ў рацэ Даўгаве
        І загараў там на мураве.
Прайшоў я крэпасць з дзвюх старон,
Наведаў кожны бастыён,
Пабачыў вежы і вароты,
І пляц парадны для пяхоты.
        Пасля знайшоў я, як кліент,
        У крэпасці мастацкі цэнтр,
        Каб мастака Ратко карціны
        Там аглядаць аж тры гадзіны.
А на царкоўнай горцы сам
Наведаў не адзін я храм.
Стаяць там цэрквы і касцёлы
І гукі звонаў чуць наўкола.
        Калі ўвайшоў раз у сабор,
        То з кліраса пачуў там хор,
        Ляцелі гукі, быццам з неба.
        То быў сабор Барыса, Глеба.
Пазнаў там не адзін квартал,
Яго адноўлены вакзал,
З яго цягнік у Ленінград,
Завёз мяне раз на парад.

## УСПАМІН З САМАЛЁТА

Я ўспомніў, як калісь зімою
У снежні я пакінуў дом,
І развітаўшыся з пургою,
Даехаў на аэрадром.
Пасля ляцеў я самалётам
З Варшавы ранкам у Бялград,
І праз акно глядзеў з ахвотай
На жывапісны хмар каскад.
Уверсе ярка ззяла сонца,
А ўнізе хмар клубы, як дым
Блішчэлі колерам чырвонца,
Струменем залатым, густым.
Яны ўдаралі, як фантаны
У вострыя вяршыні гор,
І пырскалі, як ураганы,
Вясёлкавы ўзбуджалі ўзор.
А ў небе, як па акіяне,
Плыў толькі сонечны ліхтар,
Наш самалёт, як на экране,
Жаўцеў у промнях, як янтар.
Праз хмары горы, як гарматы,
У неба цэліліся здалёк,
Мінулі хутка мы Карпаты,
Славакію ўсю ўпапярок.
І цераз Венгрыю з лагодай
Знайшоў Бялград наш самалёт,
Сустрэў я цёплую пагоду,
Службовы скончыў я палёт.

## ЦЫГАНАЧКА

Калісь цыганка маладая,
У бліскаўках  на галаве,
Над Чорным морам у Мамаі
Ля нас прысела на траве.
Трымаючы ў руках гітару,
Спявала, граючы на ёй.
Пайшоў раптоўна дожджык з хмары,
Яе і нас змачыў вадой.
Яна аднак далей спявала,
З гітарай стала танцаваць,
І сонца хмару адагнала,
І бліскаўкі ёй сталі ззяць.
Над галавой яе гарэлі
Яны, як дзіўны арэол,
А песні цудныя звінелі,
Як з неба іх спяваў анёл.
Усім здавалася, бы  з неба,
Яна з’явілася да нас,
Багіню маладосці, Гебу,
З-за хмар прывёз сюды Пегас.
Чароўнасць песняў, звон гітары,
Марскіх паблізу хваляў хор,
Былі, як боскія нектары,
Нас ап’янілі, як кагор.
Калі замоўкла, ўсе ў гіпнозе
Былі пры ёй мы доўгі час,
Пакуль сірэна на дарозе
Са сну не абудзіла нас.

# ВЕРШЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## МАХАОН

Закукавала з лесу мне зязюля…
Калі ўвайшоў я ціха на балкон,
І для пацехі ў жоўценькай кашулі
Затрапятаў на ружы махаон.
Ён прыляцеў сюды з юнацкай сілай,
І на пялёстках белых сеў, як птах,
З шлячкамі чорнымі на яркіх крылах
Стаў важнічаць між кветкамі, як граф.
У сонечных вясёлкавых праменнях
Прынёс мне звонку на балкон вясну,
Як на экране рухаліся цені,
Калі ён стаў кідаць іх на сцяну.
У бляску пахнучых навокал кветак
Ён танцаваў прыемна прада мной,
Як балетмайстар радужна адзеты,
З вачамі ззяючымі бірузой.
Танцуючы, ён шавяліў вусамі,
Дзвюмя антэнамі над галавой,
На крылах хвосцікамі, бы рагамі,
Прытупваючы кожнаю нагой.
Ён раптам скочыў на акно балкона,
Хацеў прабіцца крыламі праз шкло,
І па акне ён бегаў, як шалёны,
Бо бачыў ён за шыбаю святло.
Лятаючы, ў акне знайшоў шчыліну
І выскачыў, схваўся ён між дрэў,
І на балконе раптам праз хвіліну
Падобны махаон на кветку сеў.

## ПАВУК

Калісьці  адзін неразважны павук
Зусім  заблытаўся ва ўласную сетку,
Якую павесіў на дрэва, на сук,
А іншы канец на прыгожую кветку.
Як бег, апляла яго сетка наўкол
І шыю, і ногі, і цэлае цела,
І быццам смала, ці густы салідол,
Трымала яго, абдымаючы смела.
Вярцеўся ён свердзелам, як у смале,
Не ў змозе знайсці дзесь у сетцы праходу,
Ён выбіўся з сіл і паўз бы ў імгле,
Галодны пачуў, што папаў у нягоду.
І муха ляцела, і села на сук,
Са страху ўздрыгнула, заўважыўшы сетку,
Пабачыла зверху, як  чорны павук,
Папаўся ў яе, як у шэрую клетку,
Як там  апляла павуціна яму
І шыю, і ногі, і цэлае цела,
Што сам для сябе збудаваў ён турму,
І ўжо ў кайданах сам  ляжыць абамлелы.
І з радасці муха паклікала мух
І кружыцца рой іх над  шэраю сеткай
Смяюцца, што  вораг папаў у катух,
І стаў для іх лялькаю-марыянеткай.
Павук сумна знізу глядзеў і чакаў,
Каб нейкая муха ўвайшла ў павуціну,
Усю рараравала  яе на вачах
Яго, бо памрэ ён у ёй за  хвіліну.

## БОЖЫЯ КАРОЎКІ

Нехта павесіў у садзе вяроўку,
Белую, тоўстую, быццам струну,
Часта там бачу ўдзень божых кароавак,
Цешацца, што прычакалі вясны.
    Сад стаў цвісці і для божых каровак,
    Многа ёсць ежы, а ранкам расы,
    З музыкай ветру іх адначасова
    Цешаць птушыныя ў ім галасы.
Смелыя ўсе, не баяцца тут птушак.
Верацъ, што ўсіх іх пакінуць жывых,
Знаюць, што птушкі палююць на мушак,
Што не палююць ніколі на іх
    Ходзяць, як гузікі, без маскіроўкі,
    Чырванню бліскаюць, як сердалік,
    Белыя кропкі на чорных галоўках,
    Вусікі вострыя, кожны як цвік.
Весела бавяцца, сытых іх бачу,
Многа нядаўна наеліся тлі,
Дзесяць мінут на вяроўцы паскачуць,
І паляцяць за сяло на палі.
    Потым вяртаюцца ў сонечным бляску
    Зноў на пялёсткі ў знаёмы ім сад,
    Слухаць, як вецер гаворыць ім казку,
    Піць у пялёстках з расы ліманад.
Іх параўналі чамусь да каровак,
Шыі не маюць, вушэй, капытоў,
Страшных з рагамі не ўбачыш галовак,
Рыку кароў не пачуў тут ніхто.

## КРЫЛЫ

Мне прыснілася, што выраслі мне крылы
Лёгкія, ля рук маіх, як у арла,
Ахапіла іх тады такая сіла,
Што яна мяне ў паветра падняла.
        У жыцці лятаў не раз я самалётам,
        Зверху горы бачыў я і акіян,
        Вось у сне адкрыла неба  мне вароты,
        Паказала дзіўны  райскі свой экран.
Я пабачыў там, як лётаюць анёлы,
На планеце ў яркім радужным святле,
Як алмазы ззялі  ярка альвеолы
На  анёльскім кожным вычварным крыле.
        То было Малой Мядзведзіцы сузор'е
        Дзе заўжды нам ззяюць ноччу зорак сем,
        На планеце  ўбачыў, як стаяў на ўзгор'і
        Рыцар і на ім блішчэў сталёвы шлем.
Ён высокі быў, у цяжкіх чорных ботах,
У руках трымаў бліскучы грозны меч,
На мяне глядзеў з-пад шлема з неахвотай,
Хіба ён хацеў, каб я ўцякаў дзесь прэч.
        Ён быў злы, што я лятаю між анёлаў
        На планеце, як няпрошаны чужак,
        Чуюся над ім шчаслівы і вясёлы,
        Быццам птушка дзікая, маленькі шпак.
І калі над ім я раптам апынуўся,
Ён свой цяжкі меч падняў рукамі ўверх.
І тады ў пасцелі хутка я прачнуўся,
І ў вушах пачуў ягоны гучны смех.

## Lokomotywa
(Julian Tuwim)

Stoi na stacji lokomotywa,
Ciężka, ogromna i pot z niej spływa –
Tłusta oliwa.
Stoi i sapie, dyszy i dmucha,
Żar z rozgrzanego jej brzucha bucha:
Buch – jak gorąco!
Uch – jak gorąco!
Puff – jak gorąco!
Uff – jak gorąco!
Już ledwo sapie, już ledwo zipie,
A jeszcze palacz węgiel w nią sypie.
Wagony do niej podoczepiali
Wielkie i ciężkie, z żelaza, stali,
I pełno ludzi w każdym wagonie,
A w jednym krowy, a w drugim konie,
A w trzecim siedzą same grubasy,
Siedzą i jedzą tłuste kiełbasy.
A czwarty wagon pełen bananów,
A w piątym stoi sześć fortepianów,
W szóstym armata, o! jaka wielka!
Pod każdym kołem żelazna belka!
W siódmym dębowe stoły i szafy,
W ósmym słoń, niedźwiedź i dwie żyrafy,
W dziewiątym – same tuczone świnie,
W dziesiątym – kufry, paki i skrzynie,
A tych wagonów jest ze czterdzieści,
Sam nie wiem, co się w nich jeszcze mieści.
Lecz choćby przyszło tysiąc atletów
I każdy zjadłby tysiąc kotletów,

I każdy nie wiem jak się natężał,
To nie udźwigną – taki to ciężar!
Nagle – gwizd!
Nagle – świst!
Para – buch!
Koła – w ruch!
Najpierw
powoli
jak żółw
ociężale
Ruszyła
maszyna
po szynach
ospale.
Szarpnęła wagony i ciągnie z mozołem,
I kręci się, kręci się koło za kołem,
I biegu przyspiesza, i gna coraz prędzej,
I dudni, i stuka, łomoce i pędzi.
A dokąd? A dokąd? A dokąd? Na wprost!
Po torze, po torze, po torze, przez most,
Przez góry, przez tunel, przez pola, przez las
I spieszy się, spieszy, by zdążyć na czas,
Do taktu turkoce i puka, i stuka to:
Tak to to, tak to to, tak to to, tak to to,
Gładko tak, lekko tak toczy się w dal,
Jak gdyby to była piłeczka, nie stal,
Nie ciężka maszyna zziajana, zdyszana,
Lecz raszka, igraszka, zabawka blaszana.
A skądże to, jakże to, czemu tak gna?
A co to to, co to to, kto to tak pcha?

Że pędzi, że wali, że bucha, buch-buch?
To para gorąca wprawiła to w ruch,
To para, co z kotła rurami do tłoków,
A tłoki kołami ruszają z dwóch boków
I gnają, i pchają, i pociąg się toczy,
Bo para te tłoki wciąż tłoczy i tłoczy,
I koła turkocą, i puka, i stuka to:
Tak to to, tak to to, tak to to, tak to to!...

# ЛАКАМАТЫЎ

(Пераклад  Дз. Шатыловіча)

Стаіць на станцыі лакаматыў,
Цяжкі, вялізны, яго пот  абліў
Сумесью  тлустых аліў.
Стаіць і сапе ён, наўкол зубы скаліць,
А жар з яго светлага чэрава валіць:
Бух – як  спякотна!
Ух – як спякотна!
О – як спякотна!
Ой – як спякотна!
Ад жару здавалася, што ён паміраe,
А машыніст печ вуглем напаўняе,
Ззаду вагоны прымацавалі,
Цяжкія вельмі, з жалеза і сталі,
Многа людзей там  у кожным вагоне,
У двух таварных –  каровы і коні.
Трэці вагон занялі таўстуны,
Сядзяць і ядуць каўбасу і бліны,
У чацвёртым вагоне поўна бананаў,
У пятым вагоне шэсць фартэпіянаў,
Шосты з гарматаю з дулам даўжэзным,
Стаяць усе колы на рэйках жалезных.
Сёмы вагон са сталамі і з шафай,
У восьмым стаяць  слон, мядзведзь, дзве жырафы,
Чуваць у дзевятым, як рохкаюць свінні,
Куфры ў дзесятым, пакункі і скрыні.
Можа за сорак стаіць там вагонаў,
І ў кожным  тавараў па некалькі тонаў.
Калі б нават тысяча мужных атлетаў,
З’еўшы па тысячу тлустых катлетак,

Разам напружылі мышцы з разгонам,
Не пацягнулі б усіх тых вагонаў.
Раптам – свіст!
Раптам – піск!
Пара – бух!
Колы – ў рух!
Спачатку – павольна –
як мулы –
лянiва,
Кранула -
машына -
па рэйках –
санлiва,
Рванула вагоны, звон чуем наўкола,
І круціцца, круціцца кола за колам.
Паскорвае бег свой, штораз хутчэй гоніць
Грукоча,стукоча, дрыжыць і гамоніць,
Куды так? Куды так? Куды так? Наўпрост!
Па рэйках, па рэйках, па рэйках, праз мост,
Праз горы, палі, сенажаці, лясгас
Хутка і шпарка, паспець, каб на час,
Да такту ракочуць, чуць гукі факстрота;
Так то та, так то та, так то та, так то та.
Гладка так, лёгка так коціцца ў даль,
Быццам то мяч тут, не цяжкая сталь,
І не цягнік так бяжыць заганяны,
А нешта так коціцца цацкай бляшанай.
Як жа так, хто так яго паганяе?
І што яго хутка наперад так пхае?

Што гоніць, што лупіць, што валіць бух, бух?
Прыводзіць гарачая пара ўсё ў рух,
Уваходзіць яна з катла трубкай да поршняў,
Яны круцяць колы да сілы апошняй,
І пхаюць, цягнік павялічвае скорасць
Бо пара на поршні ўсе цісне бадзёра,
І колы грукочуць, стукочуць у такт:
Так то так, так то так, так то так, так то так!..

# ЗМЕСТ

## ДЗІВОСЫ ЛЮДСКІХ ЛЁСАЎ

## НЕБА І ЗЯМЛЯ



## МАЁ ПАДЛЯШША

**ЗАГАНЫ**



**ВЕРШЫ**



**ПАДАРОЖЖЫ**



**ВЕРШЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

